


# Рэгіянальная газета

29 лістапада 2013 года
№ 48 (970)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




Іосіф Сушко – заслужаны артыст, які зведаў ГУЛАГ.

19-я старонка



Паралімпіец Дзмітры Салей: "Назад у Беларусь я не вярнуся".

22-я старонка



**навіны рэгіёна**

## Даражэе праезд на гарадскіх аўтобусах

**РЭГІЁН.** Ад 1 снежня праезд на гарадскіх аўтобусах падаражэе на 500 рублёў. Кошт на праезд вырасце ад 2200 да **2700** рублёў за адну паездку. Пра гэта распавяла намесніца генеральнага дырэктара па эканоміцы Мінаблаўтатрансу **Ганна Русак**. Такім чынам, праезд у горадзе даражэе на 22 працэнты, а ў прыгарадзе – на 20 працэнтаў. Разам з тым, зменіцца кошт і на праязныя. У населеных пунктах з насельніцтвам менш за 50 тысяч ён будзе каштаваць **103300** рублёў (Вілейка). У гарадах, дзе жыве ад 50 да 200 тысяч чалавек, – **118500** рублёў (Маладзечна).

**Аддзел інфармацыі.**


Ювелирный салон *«Золотая мечта»*

**Внимание! Акция!**

Только с 1 декабря 2013 года по 7 января 2014 года при покупке изделий из золота на сумму более 1 млн. рублей вы получите возможность **выиграть автомобиль ТОЙОТА КОРОЛЛА**, а также дополнительные подарки и сюрпризы

**Все очень просто: купи, заполни анкету и выиграй**
**НЕ УПУСТИ СВОЮ МЕЧТУ!**

Сморгонь, магазин «Евроопт», салон «Золотая мечта»
Тел. (8-029) 327-58-14 ЧТУП «БелПромСеть». УНП 690635632



**Приезжайте за здоровьем в санаторий «Нарочь»!**

*Качественно и недорого*
*Членам профсоюза скидка 25%*

Тел. **(8-01797) 47-2-49, 49-7-06**
e-mail: sannaroch@sannaroch.com; www.sannaroch.com
Лицензия № 02040/0671266 вед.МЗРБ №М-1999 от 28.10.09 до 19.11.14г.
ЧДУП "Санаторий Нарочь" УНП 600061312



**УВАЖАЕМЫЕ ГОСПОДА!**

*Широкий выбор ЗИМНЕЙ и ДЕМИСЕЗОННОЙ ОБУВИ представлен по весьма умеренным ценам в маг. Молодечно:*

✦ **«Центр обуви»**
ул. В.Гастинец, 143Б, ТАЦ «Модуль», 1-й этаж
Пн-птн 10.00 - 19.00, сб - вс 10.00 - 17.00

✦ **«Женский рай»** и **«Мужская обувь»**
новый вещевой рынок, ул. Мира, 3
Вт-птн 9.00 - 15.00, сб-вс 8.00 - 15.30

✦ **«Белорусская обувь»**
ул. Б. Хмельницкого, 27, ТД "Вега", 2-й этаж
Пн-птн 10.00 - 19.00, сб-вс 10.00 - 15.00

**!** **СПЕЦИАЛЬНОЕ ПРЕДЛОЖЕНИЕ:** обувь по существенно сниженным ценам!

ООО «ДиЛюс» УНП 191319488


# Праблемы трэба не хаваць, а вырашаць

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанец Аляксандр 20 гадоў чакаў кватэру, а калі атрымаў, то пабаяўся ў яе заехаць.**

Мне патэлефанавалі, сказалі, што кватэра ў 11-м мікрараёне размешчаная ў сацыяльным доме: тут жывуць шматдзетныя сем'і, сіроты, інваліды. Летам тут столькі дзяцей! Двое нованароджаных у нашых суседзяў. Паабяцалі, што ўсё будзе адаптавана, змагу свабодна катацца. Пасля "Дажынак" у 2011 годзе ў снежні я прыехаў глядзець кватэру. Як убачыў, што ля ўвахода ў пад'езд такія прыступкі, ніякага пандуса, дык мне і ў кватэру ісці не захацелася.

Тады Аляксандр напісаў ліст на імя старшыні райвыканкама, у якім апісаў, чаму новае жыллё для жыцця нязручнае. І ўжо праз месяц, у студзені 2012 года, яму адаптавалі ванну і туалет: расшырылі дзверы і прыбралі парог, каб у пакоі можна было свабодна заехаць на вазку.

Пачалі распрацоўваць праект па пабудове пандуса, які б выходзіў з балкона на кухні. Спачатку прапанавалі зрабіць выхад на вуліцу ад гасцiннага пакоя, але гаспадар адмовіўся: не хацеў рабіць з кватэры суцэльную прыхожую.

**Юрысты адзначаюць, што калі чалавек з інваліднасцю жыве не на першым паверсе, мае права пашукаць варыянты абмену кватэры. І калі сям'я пераселіцца, можна вырашаць пытанне з пандусам. Калі вы выказваеце просьбу палепшыць жыллёвыя ўмовы, падрабязна апісвайце, у чым нязручнасць.**

Спачатку будаўнікі пачалі рабіць пандус з боку вуліцы: ад балконных дзвярэй ідзе спуск пад малым вуглом, з якога можна плаўна з'ехаць. Балконныя дзверы замыкаюцца на ключ. Пасля будаўнікам трэба было разабраць парог да пандуса з боку кватэры. Цяпер застаўся толькі адзін парожак, які стварае нязручнасць для гаспадара – паміж кухняй і балконам. Закончылі работу з пандусам сёлета ў жніўні.

У суседнім пад'ездзе жыве жанчына, якая таксама перамяшчаецца ў вазку. Да яе кватэры таксама праклалі пандус.

### Сумуе па парку

Аляксандр плануе напоўніцу выкарыстоўваць прыбудову вясной і летам.

– Сумую па парку, па цэнтры горада. Я пражыў 20 год у цэнтры Маладзечна, але на 13 квадратах. Ездзіў па горадзе, па вуліцы Прытыцкага. У пад'ездзе нават зрабілі адкідны пандус. Ім не толькі я карыстаўся, але і маладыя мамы з калясакамі. Усе вакол дапамагалі пры неабходнасці, было з кім пагаварыць. Як зрабілі пандус, праз год з'ехаў на новую кватэру. Цяпер у нас з дачкой 58 квадратаў, але тут пакуль не раззнаёміўся з суседзямі. Кажуць, каля нас крама, у якую зручна заехаць на вазку, ды я пакуль туды не патрапіў. Ездзіў некалькі разоў па справах у горад. Калі кіроўца аўтобуса бачыць, што на прыпынку чалавек у вазку, пад'язджае ўсутыч да бардзюра, людзі дапамагаюць заехаць. Аднойчы кіроўца нават выбег і дапамог заехаць у аўтобус.

### Адчуць сябе чалавекам

Аляксандр жыве разам з 17-гадовай дачкой.

– Яна ўсё па гаспадарцы робіць, у краму бегае, плаціць за камунальныя. Сам я часта гатую. Магу і боршч зварыць, плоў, ды ўсё, што трэба. Галоўная складанасць – раніцай сесці ў вазок. Для мяне вялікае шчасце, што я магу рэзаць, пісаць, галіцца. Раней, каб пагаліцца, сядзеў са шклянкай. А цяпер свабодна заязджаю ў ванны пакой, адчуваю сябе чалавекам. Галоўнае – не зацыклівацца на праблемах. Не заўважаю, каб у горадзе неяк непрыемна глядзелі на мяне, людзі ахвотна дапамагаюць. Але часам я ўсё ж адчуваю сарамлівасць, крыху няёмка. Але чаго першажываць? Ва ўсіх свае складанасці. Не трэба хаваць свае праблемы, трэба іх вырашаць. Я вельмі ўдзячны, што столькі ўсяго магу рабіць сам!

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Настасся РОЎДА.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Аляксандр пераканаы, што людзям з абмежаванымі магчымасцямі не трэба хавацца, а варта імкнуцца паляпшаць умовы жыцця.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Пандус са сваёй кватэры для чалавека ў вазку – магчымасць адчуваць сябе самастойнай асобай.**

1 СНЕЖНЯ — СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ БАРАЦЬБЫ СА СНІДам

# Чатыры выпадкі ВІЧ-інфекцыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Столькі зарэгістравалі сёлета за 10 месяцаў у Маладзечанскім раёне.**

Як ацаніць сітуацыю з ВІЧ-інфекцыяй і СНІДам у нашым рэгіёне?

Штогод сярод жыхароў Маладзечанскага раёна рэгіструюцца новыя выпадкі ВІЧ-інфекцыі. СНІД – канчатковая стадыя захворвання.

Сёння сярод жыхароў раёна зарэгістравана 46 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі. 25 з іх – у гарадскіх жыхароў, яшчэ 21 – у сельскіх.

### Пераважае палавы шлях захворвання на ВІЧ

Існуе меркаванне, што ВІЧ-інфекцыя – хвароба наркаманаў. Сапраўды, першымі інфіцыраванымі былі наркаманы, якія заразіліся пры ўвядзенні наркотыкаў. Яны шмат разоў карысталіся адным шпрыцам з адной іголкай.

Аднак цягам апошніх гадоў пачаў пераважаць палавы шлях заражэння. Сёння праз яго захворваюць на ВІЧ 76 працэнтаў інфіцыраваных.

Важна разумець, што сярод інфіцыраваных не толькі наркаманы, але і звычайныя людзі. Адны заразіліся ад палавога партнёра пры выпадковых палавых сувязях, іншыя – ад сваіх законных спадарожнікаў жыцця, якія не ведалі аб сваім ВІЧ-статусе. Ёсць выпадкі захворвання і сярод гомасэксуалістаў.

Многія маглі б пазбегнуць заражэння, калі б не ўжывалі наркотыкі, пазбягалі выпадковых палавых кантактаў, выкарыстоўвалі пры любым палавым кантакце прэзерватыў, калі б своечасова здалі тэст на ВІЧ-інфекцыю.

**Прайсці абследаванне на ВІЧ можна ў працэдурным кабінеце любой арганізацыі аховы здароўя Маладзечанскай ЦРБ (акрамя стаматалагічных паліклінік).**

Абследаванне праводзіцца бясплатна, можна прайсці яго нават ананімна. Для атрымання вынікаў пажадана прайсці яго праз 3-6 месяцаў пасля меркаванага заражэння.


Фота Snid1 positime.ru.

У хворых на СНІД рукі набываюць чырвонае адценне.

### У побыце ВІЧ бяспечны

Пры поціску рукі, нават, калі яна ўзмакрэлая, пры ўкусах насякомых, пры карыстанні агульнай посудам ВІЧ-інфекцыя не перадаецца. У побыце ВІЧ-інфіцыраваны чалавек не небяспечны.

А вось каб не дапусціць заражэння, трэба захоўваць шлюбную вернасць, адмовіцца ад наркотыкаў і памятаць, што любы сэкс павінен быць абароненым.

Захварэць лёгка, вылечыцца цяжка. Таму кожны павінен выбіраць: жыццё або хвароба.

**Людміла ЕРМАЧЭНКА, загадчыца аддзела эпідэміялогіі ЦГЭ.**

СВЯТЫ

## У наступным годзе будзе шмат выхадных

**У Беларусі прынялі рашэнне аб пераносе працоўных дзён у 2014 годзе.**

Працоўныя дні ў 2014 годзе пераносяцца наступным чынам:
- з чацвярга, 2 студзеня, на суботу, 4 студзеня;
- з панядзелка, 6 студзеня, на суботу, 11 студзеня;
- з серады, 30 красавіка, на суботу, 3 мая;
- з пятніцы, 4 ліпеня, на суботу, 12 ліпеня;
- з пятніцы, 26 снежня, на суботу, 20 снежня.

Арганізацыям далі права з улікам спецыфікі работы пераносіць працоўныя дні ў іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Такім чынам на Новы год беларусы будуць адпачываць два дні:
- 1 і 2 студзеня (серада – чацвер). 31 снежня будзе працоўным, але скарочаным днём;
- на праваслаўныя Каляды з 5 па 7 студзеня (нядзеля – аўторак);
- будуць выхадныя, якія звяжуць Радаўніцу і Першамай (29 красавіка – 1 мая, аўторак – чацвер),
- вялікія выхадныя, звязаныя з афіцыйным Днём Незалежнасці: 3–6 ліпеня (чацвер – нядзеля);
- вялікія каталіцкія Каляды: з 25 па 28 снежня (чацвер – нядзеля).

**Паводле БелТА.**

АДПАЧЫНАК

## Танцаваць упрысядкі на пенсіі – няма праблем

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 22 лістапада, народнае клубнае аб'яднанне ветэранаў вайны і працы "Адпачынак" адзначыла сваё 25-годдзе. Святочны канцэрт адбыўся ў Палацы культуры.**

У гэты дзень гучалі словы віншаванняў удзельнікам. А самі "адпачынцы" дзякавалі ўсім прысутным канцэртам, душэўным і цёплым.

Пра нумары трэба сказаць асобна. Кожны быў выкананы ў сваім асаблівым касцюме. Калі гэта "Куплеты гусараў" , то гэта ківеры і даламаны, калі песня пра Адэсу, то абавязкова цяльняшкі, а "Карамбаліну" выконвала сапраўдная іспанка.

Самі ўдзельнікі называюць свае праграмы пад дэвізам "Каб нідзе, каб ні ў кога". І, здаецца, гэта ў іх атрымоўваецца.

На сённяшні дзень у клубе "Адпачынак" 60 удзельнікаў. Усе ўжо на пенсіі, але, нягледзячы на гэта, яны маладыя душой, гатовыя кожны дзень дзяліцца сваім аптымізмам і энергіяй.

Аб'яднала ўсіх пад адным дахам нязменны кіраўнік клуба **Марыя Баландзіна.**

**Наталля ТУР.**


Фота Наталлі ТУР.

Песні пра Адэсу ветэраны выконваюць у цяльняшках.

ДАБРАЧЫНАСЦЬ

## Цэнтр атрымаў мікрааўтобус

**Сродкі на яго набыццё збіралі падчас дабрачыннага марафону**

**МЯДЗЕЛ. У горадзе 22 лістапада адбылася ўрачыстая перадача мікрааўтобуса цэнтру карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі. Прызначаны транспарт для падвозу дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.**

Сродкі на набыццё мікрааўтобуса збіралі падчас дабрачыннага марафону "Крок насустрач". Праходзіў ён з сярэдзіны мая ("РГ" пісала пра гэты марафон).

Калектывы прадпрыемстваў і арганізацый Мядзельшчыны, мясцовыя жыхары сабралі каля 150 мільёнаў рублёў. Астатнюю суму дабавіў райвыканкам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

## Выпусцілі падземныя кантэйнеры для смецця

**СМАРГОНЬ. Такое новаўвядзенне асвоілі на Смаргонскім заводзе аптычнага станкабудавання. Праўда, пакуль яго можна пабачыць толькі ў Мінску.**

Кантэйнер падзелены на дзве часткі. Адна, у бетоннай абалонцы, закопваецца ў зямлю, а іншая застаецца зверху і выглядае як звычайная сметніца. Различаны такі кантэйнер на два кубаметры смецця.

– Канструкцыя прадуманая, таму падчас даставання смецця праблем быць не павінна, – кажа начальнік аддзела маркетынгу і збыту **Таццяна Ляпіліна**. – Прыязджае трактар, абсталяваны кранам-маніпулятарам, выгружае смецце і вяртае кантэйнер на месца.

Кантэйнер вельмі зручны, каб карыстацца ім на грамадскіх прыпынках. Там яны хутка запаўняюцца, і смецце разносяць жывёлы ды птушкі. Аднак кошт на такі кантэйнер пакуль яшчэ дакладна не вызначаны.

**Настасся РОЎДА.**

ЮБІЛЕЙ

## У бібліятэцы жыве добры дамавік

**МАЛАДЗЕЧНА. 25-годдзе літаратурна-краязнаўчага аб'яднання "Жывіца" адзначылі ў цэнтральнай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча 26 лістапада.**

– Аб'яднанне "Жывіца" існуе чвэрць стагоддзя, і гэта адзінае аб'яднанне ў краіне, якое так доўга існуе ў бібліятэцы, – пачаў вечарыну **Міхась Казлоўскі**, цяперашні кіраўнік аб'яднання.

У гэты вечар Міхась Міхасевіч узгадваў імёны людзей, што ў розны час былі ўдзельнікамі аб'яднання. А гэта і Генадзь Каханоўскі, і Кастусь Харашэвіч, і Ніл Гілевіч, і Генрых Далідовіч, і Уладзімір Арлоў.

На сёлетнім юбілейным пасяджэнні ў зале таксама сабраліся людзі, якім неабыякавы лёс беларускай культуры. Першы кіраўнік аб'яднання **Валянціна Страх** успамінала, з каго пачыналася "Жывіца", чаму словы Янкі Купалы: "Збіраць пачнем зярно к зярніцы..." сталі дэвізам аб'яднання. Пра тое, як Генадзь Каханоўскі, будучы ўжо вядомым вучоным, заўсёды знаходзіў час, каб прыехаць на чарговае пасяджэнне клуба. Адразу ж з цягніка, размахваючы партфелем з дзвюма зашпількамі, у любое надвор'е спяшаўся ў бібліятэку. І заўсёды прасіў прабачэння, калі затрымоўваўся.

Паэтка **Таццяна Атрошанка** ці то жартам, ці то сур'ёзна сказала, што ў бібліятэцы жыве добры дамавік, які збірае ўсіх пад адным дахам. Дзякуючы менавіта ягонай працы аб'яднанне жыве і дыхае. Гаварыла яна, вядома, пра Міхася Казлоўскага.

Паэты **Валеры Хіхіч, Тамара Бярэзіна, Лідзія Гардынец** чыталі свае вершы. Асабліва запомніліся радкі Лідзіі Гардынец, якія прагучалі як лейтматыў сустрэчы:

*У вернасці табе я*
*не клянуся –*
*Табой жыву і дыхаю*
*штодня,*
*Табою, мая мова,*
*ганаруся,*
*Што беларуска –*
*ганаруся я!*

Усё, як і 25 год таму: тут спрачаюцца, гутараць, жартуюць і вельмі перажываюць за родную мову.

І, як сказаў напрыканцы сустрэчы мастак **Мікола Аўчыннікаў**, і праз 25, і праз 50 год тут знойдзецца аб чым пагаварыць. Абы толькі існавала "Жывіца".

**Наталля ТУР.**

СЛУЖБА 101

## Хлопец заўважыў пажар

**ВІЛЕЙКА. Каля гадзіны ночы 24 лістапада вілейскім выратавальнікам паведамілі пра пажар у жылым доме.**

Гарэла адна з кватэр двухкватэрнага дома ў вёсцы Асцюковічы Ільянскага сельсавета.

– Па прыбыцці выратавальнікі ўбачылі, што частка дома была ў дыме, ён прабіваўся праз дах, – расказаў інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзмітры Кляшняк**. – У доме агонь моцна пашкодзіў два пакоі з маёмасцю.

Гаспадароў кватэры дома не было: напярэдадні муж паехаў у бальніцу ў Мінск, каб праведаць жонку. І застаўся ў сына ў сталіцы.

Добра, што не спаў дарослы сын гаспадароў іншай паловы дома. Ён адчуў пах дыму, пабудзіў усіх. Людзі выбеглі з дома, убачылі, што гарыць суседняя кватэра, і адразу патэлефанавалі выратавальнікам.

Папярэдняя прычына пажару – кароткае замыканне электраправодкі.

**Аддзел інфармацыі.**

ЭКАЛОГІЯ

# Батарэйкі забіраюць здароўе і грошы

## Выкідаць іх у звычайную сметніцу небяспечна




**Батарэйкі можна выкінуць у аддзяленнях ЖРЭУ: ЖРЭУ №1 (вул. Ясінскага, 21); ЖРЭУ №2 (вул. Таўлая, 7); ЖРЭУ №3 (вул. Ф.Скарыны, 10-а); ЖРЭУ №4 (вул. Ф.Скарыны, 4-а); ЖРЭУ №5 (вул. Я.Купалы, 110); ЖРЭУ №6 (В.Гасцінец, 147-а); ЖРЭУ №7 (В.Гасцінец, 96). У інтэрнатах ЖРЭУ: В.Гасцінец, 71; Ф.Скарыны, 19; Будаўнікоў, 22; Будаўнікоў, 24; Касманаўтаў, 6; Касманаўтаў, 23; Грамадоўскага, 19-а; Галіцкага, 12-а). У гандлёвых пунктах: універмаг "Маладзечна" (вул. Прытыцкага, 27); рынак райспажыўтаварыства (вул. Б. Хмяльніцкага); крама №21 (вул. Ларына, 2); крама "Віцязь"(вул. Прытыцкага, 4).**

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі батарэйка ляціць у звычайную сметніцу, то яна трапляе на звычайную звалку. Там – раскладаецца. Шкодныя рэчывы ідуць у зямлю, а потым – у наш арганізм.**

Ад адной няправільна выкінутай батарэйкі шкоды не будзе, аднак у Маладзечне жыве каля 94 тысяч чалавек. Калі палова з іх раз на год набудзе і выкіне батарэйку, то на звалку трапіць каля 50 тысяч батарэек. А гэта ўжо праблема.

– Батарэйка – гэта цэлы комплекс хімічных злучэнняў цяжкіх металаў і кіслот у канцэнтраваным выглядзе, – тлумачыць дырэктар Цэнтра экалагічных рашэнняў **Яўген Лабанаў**. – Калі яны трапляюць на звалку, то пад уздзеяннем вільгаці, перападу тэмператур металічны корпус раскладаецца і шкодныя рэчывы трапляюць у зямлю, а потым – у грунтавыя воды. Адтуль рознымі шляхамі да нас у арганізм. Таму галоўная прычына, па якой трэба выкідаць батарэйкі ў спецыяльныя месцы, – захаваць сваё здароўе.

### Акумулятары: эканамічна і экалагічна

Увогуле, лепшы варыянт рашэння праблемы масавага траплення батарэек на звычайныя звалкі, як лічыць Яўген Лабанаў, гэта карыстацца акумулятарамі.

– Яны разлічаныя на 500, 600, а часам і да тысячы цыклаў перазарадкі, – адзначае эколаг. – Па-першае, гэта эканамічна выгадна, а па-другое, вялікая колькасць батарэек перастане трапляць у звычайныя сметніцы.

### У кожнай вобласці – спецыяльныя склады

У кожнай вобласці краіны існуюць спецыяльныя склады, куды трапляюць батарэйкі, якія жыхары выкінулі ў спецыяльныя кантэйнеры. Цяпер там захоўваецца каля 10 тысяч тон батарэек.

– У Беларусі наўрад ці пабудуюць завод па перапрацоўцы батарэек, – кажа Яўген Лабанаў. – Бо гэта нерацыянальна. Іх хутчэй за ўсё будуць адпраўляць на перапрацоўку альбо ў Фінляндыю, альбо ў Расію.

### Месцы, дзе можна выкінуць батарэйкі

У Маладзечне іх 19. Спецыяльныя кантэйнеры для батарэек стаяць ва ўсіх аддзяленнях ЖРЭУ і інтэрнатах, якія належаць гэтай структуры (на карце гэтыя месцы пазначаны ***сцяжком***). Таксама яны ёсць у чатырох гандлёвых пунктах горада (на карце – ***ромб*** ў кружку).

**Настасся РОЎДА.**




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Спецыяльны кантэйнер.**

**Дзе знаходзяцца спецыяльныя кантэйнеры для батарэек у іншых гарадах рэгіёна, чытайце ў наступных нумарах.**

| Курсы валют НБ РБ | 21.11 | 28.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 9 290,00 | **9 330,00** |
| **Еўра** | 12 580,00 | **12 670,00** |
| **Злоты** | 3 005,55 | **3 018,83** |
| **Літ** | 3 642,49 | **3 672,72** |
| **Расійскі рубель** | 283,50 | **282,50** |
| **Грыўня** | 1 131,03 | **1 137,18** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| **Долар ЗША** | 9290/9350 | **9330/9400** |
| **Еўра** | 12570/12670 | **12670/12780** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 20.11 | 27.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 105700 | **106000** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45600 | **44400** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 75000 | **75000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 22950 | **23500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **23800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 25000 | **25000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **87000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10900 | **10900** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8000 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 12000 | **12000** |
| **Алей** | 15000 | **15600** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7000 | **7400** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 11500 | **12000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Капуста**, 1 кг | 2500 | **3000** |
| **Морква**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 18000 | **17000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16600 | **16600** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 13000 | **14000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 10000 | **10000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 23000 | **25000** |
| **Перац**, 1 кг | 35000 | **37000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 19500 | **19000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **12500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8000 | **8000** |
| **Грушы**, 1 кг | 14500 | **14500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 75000 | **75000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **45000** |
| **Бульба**, 1 кг | 4000 | **5000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 18000 | **18000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 45000 | **45000** |


**ПЕРЕВОДЫ С/НА:**
**английского, испанского, итальянского, немецкого, польского и французского языков**, в том числе и для последующего нотариального заверения. Тел. **70-31-16**

**ОЦЕНКА ВСЕХ ВИДОВ ТРАНСПОРТНЫХ СРЕДСТВ И ИМУЩЕСТВА** (машин, оборудования и пр.), находящихся в государственной и негосударственной собственности.
Тел. **70-31-15, 75-35-74**
Молодечненский ф-л УП «Минское отделение БелТПП»
***г. Молодечно, ул. Буховщина, д. 60, корп.1, пом.54***
УНП 100144204

Встречайте 2014 год вместе с ГУ «Минский областной театр кукол «**Батлейка**»
**с 18 декабря по 6 января** 2013 - 2014 г.г.
приглашаем
*«Новогодние проделки Карлсона или спокойствие, только спокойствие!!!»*
*Дорогие ребята, а также их родители!*
*Весёлое представление увидеть, не хотите ли?*
*Здесь, в «Батлейке», в назначенный час*
*Карлсон из Швеции позабавит всех вас!*
*Мы друзей в хоровод приглашаем,*
*Сладкий приз для детей обещаем!*
*Вас ждут хороводы, веселье и смех,*
*Сюрпризы от Карлсона будут для всех!*
Заказ билетов и справки по адресу:
***ул. Дроздовича, 5 В***
Тел. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27**
УНП 600066659

КРЫМІНАЛ

# Карупцыя ва ўладзе

## Узбуджаныя крымінальныя справы ў адносінах да былога старшыні Любанскага сельвыканкама і прадстаўніка кіраўніцтва ПМК-185 Вілейкі



Карупцыя ва ўладзе не мінула Вілейскі раён.

**ВІЛЕЙКА. У раёне створаная каардынацыйная нарада па барацьбе са злачыннасцю і карупцыяй. Яе пасяджэнне ў Вілейскім раёне адбылося 29 кастрычніка.**

Падчас нарады разгледзелі эфектыўнасць мер, што прымаюцца па супрацьдзеянні карупцыі і эканамічным злачынствамна тэрыторыі раёна.

Сёлета шэраг выяўленых злачынстваў тычыўся найбольш важных сфер жыццядзейнасці грамадства: дзяржаўнай улады і кіравання, сферы будаўніцтва жылля.

Пра гэта сведчыць узбуджэнне крымінальных спраў па фактах крадзяжоў шляхам злоўжывання ўладай і службовымі паўнамоцтвамі былога старшыні Любанскага сельскага выканаўчага камітэта, прадстаўніка кіраўніцтва ПМК-185 Вілейкі.

Дзейнасць праваахоўных органаў нярэдка з'яўляецца выніковай толькі тады, калі знаходзяць так званую "бытавую" карупцыю.

Карупцыйныя "пагадненні" больш высокага і схаванага ўзроўню часта застаюцца незаўважанымі.

У поўнай меры дабіцца ліквідацыі негатыўных змяненняў у сферы барацьбы са злачыннасцю і карупцыяй на тэрыторыі Вілейскага раёна сёлета не ўдалося.

Запланаваны шэраг арганізацыйна-практычных мерапрыемстваў, накіраваных на ўзмацненне барацьбы з карупцыяй і эканамічнымі злачынствамі.

У прыватнасці, прыйшлі да высновы, што з карупцыяй не павінны змагацца толькі праваахоўныя органы.

Як паказваюць пракурорскія праверкі, праца спецыяльных камісій у дзяржаўных органах і арганізацыях па супрацьдзеянні карупцыі часта носіць фармальны характар і не адказвае іх прызначэнню.

Карупцыя пачынаецца з малога, калі, напрыклад, у падпарадкаванні чыноўнікаў працуюць іх блізкія сваякі, якія карыстаюцца заступніцтвам па службе, тэхніка прадпрыемства выкарыстоўваецца для будаўніцтва дома чыноўніка.

Таму задача ўсіх праваахоўных органаў – прымаць прафілактычныя меры па недапушчэнні не толькі злачынстваў, але і карупцыйных правапарушэнняў.

Так, згодна з ч. 1 арт. 17 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб барацьбе з карупцыяй", разам з іншымі абмежаваннямі, дзяржаўная службовая асоба не ў праве выконваць іншую аплатную работу, не звязаную з выкананнем працоўных абавязкаў па месцы асноўнай працы (акрамя выкладчыцкай, навуковай, культурнай, творчай дзейнасці і медыцынскай практыкі).

Падчас адной з праверак пракуратурай Вілейскага раёна ўстаноўлена, што кіраўнік аднаго з філіялаў акцыянерных таварыстваў, з доляй дзяржаўнай уласнасці 99%, займаў пасаду старшыні жыллёва-будаўнічага кааператыва ў Вілейцы. Там ён таксама атрымліваў заработную плату як кіраўнік кааператыва.

Па выяўленых пракуратурай Вілейскага раёна парушэннях гэтай службовай асобе вынесена афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці падобных парушэнняў надалей і магчымым яго вызваленні ад займаемай пасады кіраўніка філіяла.

**Вадзім ШУКРЫНАЎ,**
**пракурор Вілейскага раёна.**

КРЫМІНАЛ

## Ад турыстычнай стаянкі ўкралі біятуалет

**МЯДЗЕЛ. У ноч на 15 лістапада знік біятуалет з турыстычнай стаянкі "Антанінзберг". Яна знаходзіцца ля дарогі ў некалькіх кіламетрах ад к. п. Нарач (Купа).**

Як мяркуецца, у крадзяжы ўдзельнічалі некалькі чалавек – як мінімум двое. І звезлі туалет з дапамогай транспартнага сродку. Каштаваў біятуалет амаль тры мільёны рублёў.

Пасля праведзенай праверкі 26 лістапада ўзбуджаная крымінальная справа за крадзеж, паведаміў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта РБ **Аляксандр Штура**.

Гэта не першы падобны выпадак на Мядзельшчыне. Некалькі год таму кралі туалеты, стылізаваныя пад грыбкі – знаходзіліся яны ля дарог.

**Аддзел інфармацыі.**

МЯЖА

## За дзве гадзіны затрымалі дзве партыі цыгарэт

**АСТРАВЕЦ. 25 лістапада ў зоне адказнасці памежнага паста "Вялікая Страча" ад мясцовага насельніцтва паступіла інфармацыя, што ў 15 кіламетрах ад дзяржаўнай мяжы знаходзіцца аўтамабіль "Газэль" – меркавана з цыгарэтамі.**

Для праверкі ў вёску Ласі Астравецкага раёна адправіўся пamежны нарад.

Прыбыўшы на месца, пaмежнікі знайшлі аўтамабіль "Газэль" без рэгістрацыйных нумароў. Пры набліжэнні нарада аўтамабіль накіраваўся ў бок Пастаў. Пaмежнікі арганізавалі пераслед.

Праз некаторы час у лясным масіве ў раёне вёскі Трабуцішкі пaмежны нарад спыніў аўтамабіль. Кіраваў ім жыхар Пастаў. У аўтамабілі знайшлі 80 каробак цыгарэт (40 тысяч пачкаў).

Праз дзве гадзіны пасля гэтага затрымання, ужо на ўчастку заставы "Лынтупы", пaмежны нарад сумесна з супрацоўнікам Пастаўскага РАУС у лясным масіве непадалёку ад вёскі Трабуцішкі знайшлі аўтамабіль УАЗ. Кіраваў ім таксама жыхар Пастаў. У аўтамабілі была 81 каробка цыгарэт ( 40,5 тысячы пачкаў).

Праводзіцца разбіральніцтва. Цыгарэты і аўтамабілі перададзеныя супрацоўнікам Пастаўскага РАУС. На кіроўцу, які спрабаваў уцячы, міліцыянеры склалі пратакол.

Папярэдняя сума ацэнкі цыгарэт устанаўліваецца.

**Аляксандр Колабаў,**
**памочнік начальніка Смаргонскай памежнай групы па працы са СМІ.**

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Мужчыну збіў цягнік

**ВІЛЕЙКА. Сутыкненне адбылося каля гадзіны ночы 27 лістапада.**

57-гадовы мужчына перабягаў пуці перад самым цягніком, які толькі пачаў рух. Цягнік зачапіў мужчыну, той атрымаў раненні сустава левай ступні.

Мужчына нідзе не працуе, ён жыхар Вілейскага раёна.

Пра здарэнне паведаміла старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце **Таццяна Субач**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ВЫШУК

## Знайшлі зніклага інваліда

**ВІЛЕЙКА. Мужчыну знайшлі 21 лістапада ў вёсцы Суднікі. Гэта ў шасці кіламетрах ад вёскі Ілья, дзе ён жыў.**

Яго адразу даставілі ў рэанімацыйнае аддзяленне Вілейскай ЦРБ.

58-гадовы мужчына прапаў удзень 17 лістапада. Цягам тыдня супрацоўнікі міліцыі яго шукалі па ваколіцах.

Аднак знайшлі жыхары вёскі Суднікі, якія пазванілі ў міліцыю і сказалі, што ў іх павеці незнаёмы мужчына.

– Хутчэй за ўсё, ён туды патрапіў, пайшоўшы праз лес, – мяркуе намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**. – У лесе мы яго і шукалі, не абміналі і розныя закавулкі.

**Настасся РОЎДА.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Пройдзе дзень бяспекі

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці 29 лістапада правядзе Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "Пешаход – на пераход!".**

Яго мэта – папярэджанне аварый з удзелам пешаходаў.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

НАРКОЛОГИЯ
г. Молодечно, ул. В. Гастинец, 143б, каб. 313-4
8-029 377-56-34, 8-029 272-15-51
ИП Мартынов А.Е. УНП 690210079

ТЕПЛИЦЫ 4, 6, 8, 10 метровые
БЕСЕДКИ Поликарбонат.
Возможна доставка, сборка, рассрочка до 3-х мес. Действует АКЦИЯ!
Т. (8-029) 325-80-20, (8-029) 295-29-53. Сайт www.svkr.by
ООО «Светопрозрачная кровля». УНП 591001987

Советский (г.Минска) отдел
Департамента охраны МВД Республики Беларусь
приглашает на службу на должности:
МИЛИЦИОНЕРОВ
(-кинолога, - водителя)
Требования: не старше 25 лет, с образованием не ниже среднего, в том числе заочно обучающиеся, а также неслужившие в Вооруженных Силах, признанные годными к строевой службе.
ПРЕДОСТАВЛЯЕМ ОБЩЕЖИТИЕ.
Тел. (017) 288 40 87, (017) 216 17 61
г.Минск, ул. Кольцова, 50

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Інвалідам дзіця робіць шкадаванне

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі бацькі даведваюцца пра інваліднасць свайго дзіцяці, у іх пачынаецца жыццё, дзе скрозь і побач узнікаюць моцныя эмацыйныя перажыванні і складаныя выбары.**

Спачатку бацькі могуць разгубіцца, адчуць сябе адзінокімі, без ведання, што рабіць і дзе шукаць дапамогу і разуменне. Адны сем'і робяць крок назад, паглыбляюцца ў сваю праблему, замыкаюцца, адгароджваюцца ад свету. Іншыя – знаходзяць падтрымку ў падобных сем'ях, арганізацыях. Толькі ад сям'і залежыць, ці зможа яна зрабіць "два крокі наперад".

### Калі нарадзілася нездаровае дзіця. Непрыняцце

Першая рэакцыя: "Гэта не магло здарыцца са мной". Яна хутка змяняецца злосцю, магчыма, на дактароў, якія сказалі вам пра такую страшную навіну. Інваліднасць дзіцяці можа паўплываць на адносіны паміж мужам і жонкай, з дзядулямі і бабулямі, з іншымі важнымі для сям'і сваякамі.

Злосць – наймацнейшае пачуццё, праз якое праходзяць усе. Яна ідзе ад вялікага гора і велізарнай нечаканай страты, якую немагчыма патлумачыць, перамагчы.

### Страх

Людзі баяцца невядомасці. Калі яны ведаюць, што будзе з дзіцем потым, палохае іх менш, чым невядомасць. Паўстаюць пытанні: якім будзе дзіця ў пяць, дванаццаць, дваццаць адзін год? Што з ім будзе, калі я памру? Потым прыходзяць іншыя: ці зможа ён вучыцца, скончыць каледж? Ці зможа ён кахаць, смяяцца, рабіць усё то, пра што вы марылі?

Многія пытанні, на якія няма адказу, параджаюць страх. Бацькоў палохае, што стан дзіцяці можа быць самым горшым з усіх магчымых. Ёсць страх, што грамадства не прыме іх, што ў сям'і больш не з'явіцца дзіця. З'яўляюцца сумненні, а ці будзе муж (жонка) любіць гэта дзіця.

### Віна

Бацькі шукаюць у гэтым сваю віну: я за штосьці пакараная? Я недастаткова сачыла за сабой падчас цяжарнасці?

Некаторыя звяртаюцца да рэлігіі, бачаць у гэтым кару Божую.

### Замяшальніцтва

Яно ідзе ад таго, што бацькі не да канца разумеюць, што адбываецца і што адбудзецца. Ад яго з'яўляюцца бяссонніца, няздольнасць прыняць рашэнне, эмацыйная перагружанасць.

### Бяссілле

Бацькі не могуць змяніць таго, што дзіця – інвалід. Аднак ім трэба адчуць, што яны могуць справіцца са сваімі жыццёвымі праблемамі.

### Расчараванне

Тое, што дзіця інвалід, чапляе бацькоў і кранае іх сістэму каштоўнасцяў. Гэта пачуццё можа прывесці да таго, што бацькам здасца, што яны не могуць прыняць дзіця як паўнацэннага чалавека, асобу.



Фота ipc-feodosia.org.

Сонца ўзыходзіць для кожнага.

### Зноў непрыняцце

Адзін з самых моцных бакоў непрынята сітуацыі, добра, што такое сустракаецца рэдка, – пажаданне смерці дзіцяці. Гэта прыходзіць да бацькоў, якія знаходзяцца ў глыбокай дэпрэсіі.

У час, калі бацькі моцна перажываюць, калі іх сэрцы перапаўняюць розныя пачуцці, важна ведаць, што яны не адны, што ёсць людзі, якія гатовыя дапамагчы.

## Рэкамендацыі бацькам, якія даведаліся, што дзіця – інвалід

### Шукайце дапамогі ў іншых бацькоў

Прасіце іх дапамагчы. Існуе шмат арганізацый і груп бацькоў, якія выхоўваюць дзяцей з інваліднасцю.

Размаўляйце з вашай сям'ёй і іншымі значнымі для вас людзьмі. Часам муж і жонка не дзеляцца пачуццямі, якія ўзнікаюць у іх праз праблему дзіцяці. Яны не могуць падтрымаць адзін аднаго. Праз размову ў цяжкія часы пары становяцца мацнейшыя.

Калі ёсць іншыя дзеці, размаўляйце і з імі таксама, не забывайце пра іх. Калі вы адчуваеце сябе спусташонымі і не можаце ўдзяліць увагу іншым сваім дзецям, то знайдзіце ў вашай сям'і чалавека, які на час возьме на сябе гэтыя абавязальцельствы.

### Жывіце сёння

Думкі пра будучыню могуць паралізаваць вас. Трэба адкінуць пытанне: а што будзе заўтра? Гэта можа здацца неверагодным, але добрыя рэчы пачнуць адбывацца з вамі кожны дзень.

### Вывучыце тэрміналогію

Калі вы сутыкаецеся з новай тэрміналогіяй, то не бойцеся даведвацца сэнс новых слоў. Калі падчас размовы хтосьці ўжывае незразумелае вам слова, то спыніце размову і папрасіце патлумачыць, што гэта значыць.

### Шукайце інфармацыю

Галоўнае – шукаць дакладную праўдзівую інфармацыю. Не бойцеся задаваць пытанні, але правільна іх фармулюйце. Добра, калі перад сустрэчай вы напішаце іх. Запісвайце і дадатковыя, што ўзнікаюць падчас размовы.

Прасіце копіі ўсіх дакументаў і запісаў пра ваша дзіця ў дактароў, педагогаў, іншых спецыялістаў. Набудзьце папку, дзе будуць захоўвацца ўсе дакументы, звязаныя з дзіцем.

### Не дазваляйце сябе запалохваць

Не палохайцеся прафесіяналізму тых, хто займаецца з вашым дзіцем. Вы маеце права ведаць усё, што адбываецца. Не бойцеся паказаць свае пачуцці. Многія бацькі, асабліва таты, душаць свае пачуцці, бо ім здаецца, што тады яны будуць выглядаць слабымі.

Вучыцеся спраўляцца з пачуццём горычы і злосці. Аптымізм – лепшы сродак ад праблем. Бачанне чагосьці добрага змяншае боль ад дрэннага.

### Будзьце рэалістамі

Быць рэалістам, значыць разумець, што ў жыцці ёсць рэчы, якія мы можам змяніць. Быць рэалістам, значыць, таксама разумець, што ў жыцці ёсць рэчы, якія мы не можам змяніць. І трэба разумець, што мы можам змяніць, а што не.

### Памятайце, што час іграе на вас

Час сапраўды лечыць. Не будзе лёгка, але з часам шмат праблем вырашыцца.

### Памятайце пра сябе

Дастаткова адпачывайце, ешце так добра, як зможаце, выходзьце з дома і размаўляйце з людзьмі, якія могуць вас падтрымаць.

### Пазбягайце шкадавання

Інвалідам дзіця робіць ваша і іншых шкадаванне. Шкадаванне – не тое, што вам трэба. Вам неабходна хутчэй спачуванне.

### Вырашыце, як рэагаваць на тых, хто побач

Памятайце, што многія проста не ведаюць, як весці сябе пры сустрэчы з інвалідам. Вырашыце для сябе, як рэагаваць на пільныя позіркі, пытанні. Не аддавайце энергію на перажыванні з-за непрыемных вам рэакцый чужых людзей.

### Памятайце, што гэта ваша дзіця

Гэта ваша дзіця. І гэта самае галоўнае. Можа быць, яго развіццё будзе адрозніваецца ад развіцця іншых дзяцей, але гэта не азначае, што ён менш паўнавартасны і мае менш патрэбы ва ўвазе і любові.

Любіце сваё дзіця і атрымоўвайце задавальненне ад яго. Ён – індывідуум, памятайце пра гэта. Паспрабуйце рабіць пазітыўныя крокі насустрач дзіцяці, вам абаім гэта будзе карысна. І вы навучыцеся думаць пра будучыню з надзеяй.

**Алена КАМІСАРУК, псіхолаг Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

ДА ДНЯ ІНВАЛІДАЎ

# Мы хочам пабачыць белыя ночы

**МАЛАДЗЕЧНА. Да Дня інвалідаў і 25-годдзя маладзечанскай раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання "Беларускае таварыства інвалідаў" у Чысці прайшоў "Блакітны агеньчык".**

Тут жыве 37 інвалідаў. Святочную сустрэчу з выступленнямі мясцовых артыстаў зладзілі для іх.

Аднак гэта была далёка не адзіная праведзеная сустрэча. Не так даўно сябры таварыства адправіліся ў невялічкую вандроўку: Маладзечна – Валожын – Вішнева – Гальшаны – Ашмяны – Смаргонь – возера Белае…

Гальшанскі замак уразіў больш за ўсё. Апеты ў апаваданні Караткевіча, ён не мог не закрануць. Узрушыла і легенда замка пра чароўнае, але нешчаслівае каханне бязроднага маладога хлопца і шляхетнай князёўны. Нешчаслівае, бо калі пра іх сустрэчы даведаўся бацька князёўны, загадаў замураваць юнака ў адну са сцен замка.

Кажуць, ад тых часоў па замку блукае цень сумнага Чорнага Манаха. Так празвалі юнака мясцовыя жыхары.

Чорнага Манаха мы не сустрэлі, затое добра адпачылі на беразе возера Белае. Вялікая асалода – назіраць за блакітам воднай гладзі.

Налета марым пабачыць знакамітыя разводныя масты і белыя ночы Санкт-Пецярбурга.

Хочацца сказаць дзякуй тым, хто аказвае спонсарскую падтрымку: дырэктару ЗАТ "Будпраект" **Вользе Вялічцы**, дырэктару Мінскага абласнога драмтэатра Юрыю Крывенькаму.

**Васіль ТАРКАН, старшыня праўлення Маладзечанскай РА ГА "БелТІ".**

# Пройдзе сустрэча да Дня інвалідаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Да Міжнароднага Дня інвалідаў цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча ладзіць сустрэчу для людзей з абмежаванымі магчымасцямі.**

На сустрэчы будзе юрыст і псіхолаг Маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

Спецыялісты акажуць консультацыйную дапамогу інвалідам і іх сем'ям па прававых і псіхалагічных пытаннях. Сустрэча адбудзецца 2 снежня з 17.00 да 19.00 у бібліятэцы.

Даведкі па тэлефоне **8(0176) 77-15-66.**

**Аддзел інфармацыі.**




СЕТЬ МАГАЗИНОВ

www.almi.su

УНИВЕРСАМ ул. В. Гостинец, 136
ГАСТРОНОМ ул. Ф. Скорины, 28

- 2800 ~~3500~~ — Йогурт с бифидобактериями обезжиренный Оптималь 120г РБ Черника/Клубника-киви
- 6500 ~~7800~~ — Напиток йогуртный Фруттис Легкий жир.0.1% 285г РФ В ассортименте
- только в универсаме 9200 ~~11100~~ — Продукт сырный плавленый Хуторской жир.50% 230г РБ Классический/С грибами/С колбасой
- только в универсаме 19500 ~~23400~~ — Сыр Фетакса Хохланд жир.60% 200г РФ
- 10500 ~~12600~~ — Морковь По-корейски Леор 380г РБ
- 39900 ~~45900~~ — Колбаса вареная мясная Останкинская Элит в/с 1кг РБ
- 25900 ~~31100~~ — Ветчина рубленая вареная из мяса птицы На Бутерброд 0.5кг РБ
- 46900 ~~56300~~ — Пашина к/в Брестская 1кг РБ
- 21900 ~~26300~~ — Минтай с/м б/г 1кг РФ
- только в универсаме 159900 ~~199950~~ — Кальмар стружка с/с 1кг Китай
- 6800 ~~7850~~ — Крупа гречневая Ядрица/ Рис Классический Ракан 800г РБ
- 12500 ~~14400~~ — Масло подсолнечное Русское Масло 1л РФ
- 8200 ~~10700~~ — Горошек зеленый 400г/ Кукуруза Глобус 340г Венгрия
- 8300 ~~10800~~ — Маслины б/к Трансформадос 300г Испания
- 6200 ~~8100~~ — Смесь для домашних колбасок По-французски Магги На Второе 24г РФ
- только в универсаме 8500 ~~10200~~ — Пюре для детского питания Бабушкино Лукошко 100г РФ Цветная капуста/Капуста Брокколи
- 3200 ~~3850~~ — Сок детский Сады Придонья 200мл РФ Зеленое яблоко/ Мультифрукт/Яблоко-виноград
- 6500 ~~8150~~ — Сок/Нектар Джой 1л РБ Томат/Апельсин /Яблоко
- 3950 zakrama Зроблена ў Беларусі — Напиток Ледяной чай Закрама 0.5л РБ В ассортименте
- 30950 ~~40250~~ — Кофе молотый Чибо Эксклюзив 250г РФ
- только в универсаме 19500 ~~23400~~ — Чай черный Цейлонский Высокогорный Принцесса Нури 100пак*2г РФ
- 16500 ~~20650~~ — Конфеты Ярче 280г РФ
- только в универсаме 10950 ~~13700~~ — Конфеты Корова Мушка Рошен 300г Украина
- 3700 ~~4800~~ — Вафельная трубочка с вареной сгущёнкой Славные сласти 75г РБ
- только в универсаме 6900 ~~8650~~ — Трубочки вафельные Вереск 200г РФ В ассортименте
- 9250 ~~12050~~ — Печенье сахарное Топленое Молоко Глобус 420г РФ
- 6100 — Семечки подсолнечника жареные Наша лучшая цена 150г РБ
- только в универсаме 60900 ~~76150~~ — Колготки женские Соната 180ден Украина В ассортименте
- только в универсаме 9900 ~~12400~~ — Прокладки Белла Фо Тинс Део 10шт Польша Сэнситив/Релакс/Энердж
- только в универсаме 17900 ~~23300~~ — Дезодорант-спрей Рексона 150мл РФ В ассортименте
- только в универсаме 16900 ~~22000~~ — Зубная паста Бленд-А-Мед 100мл РФ Мятный поцелуй/ Трехмерное отбеливание/3Д Уайт
- 12500 ~~15650~~ — Средство для мытья посуды с лосьоном Сир Экстра 750мл Турция
- 26900 ~~32300~~ — Стиральный порошок Дося Автомат 1.8кг РФ Альпийская свежесть/Колор/Лимон
- только в универсаме 17900 ~~22400~~ — Кондиционер для белья Сир 1л Турция Цветок/4 времени года
- только в универсаме 13900 ~~17400~~ — Средство моющее для унитазов Майор Домус 1л Польша В ассортименте
- 18500 ~~23150~~ — Бумага туалетная Рута Белая 8шт Украина

Зачеркнутая цена является средней по магазинам сети АЛМИ до начала акции.
Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале. При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 27 НОЯБРЯ ПО 10 ДЕКАБРЯ 2013 ГОДА**


товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136


товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624

АСОБЫ

# Іосіф Сушко – заслужаны артыст, які зведаў ГУЛАГ

**МАЛАДЗЕЧНА. Як атрымалася, што заслужаны работнік культуры ведае пра зладзеяў у законе не менш, чым пра артыстаў? Чаму лічыць, што ў ГУЛАГУ яму было добра? Якая музыка можа зваяваць сэрца і энкавэдыста, і злодзея?**

**Іосіф Сушко** ўжо 53 гады кіруе ансамблем "Спадчына". За гэты час праз ансамбль прайшло каля 250 удзельнікаў. Сярод іх прадстаўнікі рознага ўзросту, нямала дзяўчат.

Працаваў з многімі песнямі, але кожную імкнуўся падаць па-свойму: апрацаваць, дадаць штосьці. Да многіх вершаў стварыў музыку. У зборніку песень Іосіфа Сушко шмат вершаў мясцовых аўтараў.

– Я пазнаёміўся з паэтэсай **Нінай Тарас**. Ніхто на яе словы песні не пісаў. А ў мяне атрымалася. Салісты прасілі, каб прынёс новую песню. І ўспомніў, як прачытаў тры радкі з верша "Што ж ты мне сэрца параніў". Хутчэй у бібліятэку, скапіў той тэкст і, вы ведаеце, за дзве гадзіны гэту песню напісаў. Упершыню выканала яе **Ніна Сычова**, яна працавала доктарам па вачах. У 1963 годзе песня гучала паўсюль: і ў нас, і на Усходзе, і на Калыме, і ў Крамлі.

Свая гісторыя ёсць у песні "Чарнобыльская рана".

– Наш маладзечанец **Вячаслаў Шнуркевіч** напісаў словы, я музыку. У Ліду мы паехалі на агляд, пасля выканання "Чарнобыльскай раны" людзі ўсталі, многія плакалі. Ансамбль атрымаў Гран-пры. Пасля мы паехалі ў Германію, праспявалі гэту песню. Яна вельмі ўзрушыла немцаў. Перакладчык кажа, што не трэба было спяваць яе, таму што бяду не паправіш. А немцы пачалі з ім спрачацца, сказалі, што нельга гэта ўтойваць.

Песня "Ночка цёмная мая" на вершы **Уладзіміра Зянько** з Хоўхлава, які працаваў у чыгуначным дэпо. Ён выдаў кнігу "Песні маёй маці", якую падтрымаў музыказнаўца **Генадзь Цітовіч**. Толькі на такія словы, калі проста і хораша, і пішацца музыка.

## Як немец пахваліў бацьку

– Бацька быў гарманістам і тры сястры спявалі, а адна была без слыху. Ён служыў у Першую сусветную вайну і трапіў у палон, чатыры гады быў у Германіі. Дзед мой шмат зарабіў у Петраградзе, працуючы швейцарам. Прывёз грошы і купіў 60 гектараў зямлі, падзяліў іх паміж дзецьмі. Майму бацьку дасталася 10 гектараў.

У нашай сям'і гаварылі пра тое, што палякі нас прыгнятаюць. 17 верасня ідуць савецкія войскі, вызваляюць. Бацька такі задаволены, з саду нясе яблыкі частаваць салдат. Ён быў рады савецкім салдатам, таму што пры Польшчы было так: калі ты праваслаўны, то далёка вучыцца не пойдзеш, не больш за сем класаў. А ён хацеў сына вывучыць.

Праходзіць год, савецкая ўлада ўстанаўліваецца, а зямлі ж мелі шмат. Раз – і запісалі ў кулакі, а там вялікія падаткі. Хаця для мяне была радасць, што на гармоніку іграў паўсюль.

Падчас палону бацька падвучыў нямецкую мову. Калі прыйшлі немцы, яны ў вёсках ставілі старастаў. Бачаць, што ён па-нямецку разумее, і ставяць старастам на акругу. Бацька адказаў, што не зможа: вялікая сям'я, трэба працаваць. Немцы здзівіліся, бо столькі ж ахвотнікаў было, а ён адмаўляўся.

Гэты палкоўнік пытаецца: "А ты хто, паляк, рускі?" Бацька адказвае: "Не, я беларус". І пры мне палкоўнік падышоў, паляпаў бацьку па плячы і кажа: "Gut" (добра). Пасля вайны мяне арыштавалі, а яго не чапалі, бо не лез, куды не трэба.

## За што забралі

Калі вучыўся ў настаўніцкай семінарыі, заўсёды быў на віду, таму што займаўся самадзейнасцю, іграў на ўсіх святах. На фронт мяне не ўзялі, я ж малады. Зацікавіліся: "А хто ён" – "Пры немцах быў, таксама падыгрываў".

Прыйшоў у інтэрнат энкавэдыст, пытаецца, ці ёсць брат, я ж маленькі ростам. Няма. Прывялі, адправілі ў Вілейку. І цэлы год не судзілі, бо не было 18. Сядзеў у камеры, цяпер у гэтым будынку анкалагічная бальніца. Сядзелі з намі сапраўдныя бандыты. Яны пасля вайны хадзілі па лясах, забівалі палітработнікаў.

Каго не выклікалі на суд, усім давалі смяротнае пакаранне. З такімі і сядзеў. Захварэў на тыф. Я не адчуў, каб следчыя былі злыя на мяне. Трапіўся лейтэнант, сказаў, што гады тры можа дадуць. Я б сказаў, што паўсюль сустракаў чалавечае стаўленне да сябе.

## Заступіўся пахан зладзеяў у законе

**– Калі вы сядзелі, за вас бандыт заступаўся, так?**

– Не, гэта не бандыт! Гэта зладзеі ў законе былі. Я там так вучыўся, што для мяне было як кансерваторыя. Такія педагогі! Адзін – дырыжор Венскай оперы, потым Лідзія Русланава прыехала. Энкавэдысты былі беларусы.

Дык вось, у лагер прыехалі малалеткі, гэта самыя паскудныя зняволеныя. Зладзеі ў законе імкнуцца паводзіць сябе годна, для іх злодзей – як вышэйшая адукацыя.

Гэтыя малалеткі часта запрашалі мяне іграць, я іграў, але ж мне і займацца трэба, і надакучыла. А часам я іграў і для зладзеяў у законе. Пайшоў да іх пахана і кажу, што малалеткі не даюць займацца. Назаўтра ён выклікаў іх старшага і сказаў не чапаць мяне. Кажа, што не ўсім быць зладзеямі ў законе.

## Было добра ў лагеры

**– Ці было вам увесь гэты час, як вас забралі энкавэдысты, страшна?**

– Не. Нічога страшнага не было. Ну пасадзілі, ну захварэў. Калі на тыф хварэў, вы ведаеце, хто паміраў? Здаровыя хлопцы. Тыф любіць маленькіх і хударлявых, як я, такія не паміралі. 12 дзён тэмпература была 40-41. Ну а што страшнага? Я не думаў, што смерць – гэта сур'ёзная рэч.

Пасля, у лагеры, вядома ж, хацелася жыць. Але, ведаеце, мне было добра ў лагеры. Было столькі добрых людзей. Энкавэдысты сачылі, канешне, але ж яны людзі. Мы ж нічога дрэннага не рабілі. Мяне паставілі токарам, і я адразу стаў рэкардыстам. Вядома ж, начальнікі радаваліся.

## 300 чалавек у камеры

Калі ў Оршы сядзеў, мне пераслалі кавалак сала. У камеры 300 чалавек, з іх 12 зладзеяў у законе, яны коўдрамі завешваліся. Зладзеі часта забіралі яду, калі камусьці перасылалі. А ў мяне не ўзялі. Я вечарамі песні спяваў па-беларуску.

Я ведаў лагерную дысцыпліну, адрэзаў кавалак сала і ім занёс. Я сябраваў з хлопцам з Барысава, і вось падчас прагулкі мы забеглі ў туалет і па чарзе кусалі кавалак сала, што застаўся. Ён многа што значыў.

**– Ці адчувалі несправядлівасць, што вас саслалі?**

– Калі апынуўся ў лагеры ў Іркуцкай вобласці, то там людзі групуюцца па сваіх поглядах. Артыстаў садзілі таму, што пры немцах спявалі. Мы маглі спяваць, выступаць і вельмі цанілі такую магчымасць.

Мы не зласваліся, бо ведалі: такі рэжым, што зробіш. Былі ўдзячныя, што ў лагеры маглі спяваць.

**Канцэрт, прысвечаны 85-годдзю Іосіфа Сушко, адбудзецца 29 лістапада ў Палацы культуры. Пачатак а 18 гадзіне.**

## Баяўся, што палічаць сэксотам

**– Ці было для вас важна, што вас рэабілітавалі?**

– Мяне рэабілітавалі, а я пра гэта не ведаў. Давалі граматы, прэміі, пускалі за мяжу. Людзі пачалі гаварыць, як гэта можна, ён жа сядзеў па 63-м артыкуле. Каго з ім за мяжу пускаюць? Я пачаў баяцца, што людзі пачнуць думаць, што я сэксот нейкі. А аказалася, што я ў 1962 годзе рэабілітаваны. А яны ж нікому не казалі, сам павінен быў напісаць прашэнне.

## Крыўды не меў

Калі я вярнуўся з лагера, чатыры гады працаваў у школе ў Варапаеве. Адразу ж мяне паклікаў старшыня райвыканкама. Партызан, яны тады нікога не баяліся. Старшыня пытаецца, ці з крыўдай я прыехаў. Я адказваю, якая ж крыўда, я баяністам стаў, токарам.

Аднойчы на мяне напісалі фельетон "Халтуршчык на грамадскай аснове". Аўтара гэтага тэксту падпаілі, нагаварылі пра мяне, ён і напісаў. Пасля гэтага была сустрэча з удзелам **Рыгора Шырмы**. Я не хацеў ехаць, але і непавагу паказаць не хацеў. Пасля гэтага мерапрыемства аўтара фельетона знялі з пасады за паклёп. Мне няёмка нават было.

## Некалькі фактаў пра Іосіфа Сушко

- Іграе на гармоніку з чатырох год.
- Яго жонка Марыя была лепшай сяброўкай Лідзіі Калачык, жонкі былога старшыні калгаса "Светлы шлях" Уладзіміра Калачыка.
- Абедзве пары ажаніліся з розніцай у некалькі дзён.
- Зладзіў канцэрт разам з народнай артысткай СССР Ларысай Александроўскай.
- Некалькі разоў падавалі на званне заслужанага артыста, але злыя языкі не дазвалялі яго атрымаць. На адным канцэрце ансамбль "Спадчына" выступаў перад другім сакратаром БССР Аляксандрам Аксёнавым і старшынёй Савета Міністраў Нінай Сняжковай. Праз два дні Іосіф Сушко стаў заслужаным артыстам.
- Мае двух сыноў. Адзін працуе ў Чысці, загадвае Домам культуры. Другі працуе ў абласным Доме творчасці, загадвае эстрадным аддзелам. Адна з нявестак працуе ў Міністэрстве культуры. Унучка вывучае замежныя мовы ў ВНУ. Унук – у аркестры Міністэрства ўнутраных спраў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Іосіф Сушко, мастацкі кіраўнік заслужанага аматарскага калектыву Беларусі ансамбля песні і танца "Спадчына", заслужаны работнік культуры.**

**Даведка "РГ". Іосіф Сушко** – заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік ансамбля песні і танца "Спадчына". 13 снежня 1944 года яго арыштавалі, а пасля прыгаварылі да 10 гадоў зняволення. Так аказаўся ў Тайшэце Іркуцкай вобласці. У 1954 годзе вызвалілі. Вярнуўшыся, працаваў мастацкім кіраўніком Варапаеўскага Дома культуры (Пастаўскі раён). Толькі ў 31-гадовым узросце, у 1959 годзе, ён паступіў у Маладзечанскае музвучылішча. У 1960-м стаў кіраўніком ансамбля "Спадчына", які ў 1963 годзе атрымаў званне "народны".

## КАЛЯНДАР

**29 лістапада.** 90 гадоў з дня нараджэння Францішка Сяліцкага (1923 – 2001), польскага літаратуразнаўца-слáвіста, фалькларыста. Доктар філалагічных навук. Нарадзіўся ў вёсцы Мікуліна Даўгінаўскай гміны Вілейскага павета. Скончыў Вроцлаўскі ўніверсітэт (1955). З 1978 года – прафесар Інстытута славянскай філалогіі гэтага ж універсітэта. Аўтар прац "Беларускія вясельныя абрады і песні з вёскі Мікуліна", "Пахавальныя і дзядоўскія песні, якія выконваліся ў Вілейскім павеце", "Водовішчы ў вёсцы Мікуліна былога Вілейскага павета ў міжваенны перыяд", інш., прысвечаных культуры беларускага народа.

***

**105 гадоў** з дня нараджэння Яўгена Красоўскага (1908 – 1980), жывапісца, графіка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

**85 гадоў** з дня нараджэння Галіны Арловай (1928), актрысы, народнай артысткі Беларусі.

***

**30 лістапада**. 225 гадоў з дня нараджэння К.А.Буйніцкага (1788 – 1878), пісьменніка, публіцыста, краязнаўца.

***

**1 снежня**. 50 гадоў назад (1963) пачаў дзейнічаць Гродзенскі хімічны камбінат (першапачаткова дзейнічаў як азотна-тукавы завод; з 1970 года – хімкамбінат; з 1975-га – Гродзенскае вытворчае аб'яднанне "Азот").

***

**3 снежня**. 105 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Сухаверхава (1908 – 1977), жывапісца, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**4 снежня**. 100 гадоў з дня нараджэння Марыны Бяльзацкай (1913 – 2004), артысткі балета і балетмайстра, народнай артысткі Беларусі.

***

**90 гадоў** з часу утварэння (1923) Вышэйшага Савета народнай гаспадаркі БССР, дзяржаўнага органа кіравання прамысловасцю Беларусі ў 1923 – 1932 гг. і ў 1957 – 1965 гг.

***

**70 гадоў** з дня нараджэння Казіміра Камейшы (1943), беларускага паэта, перакладчыка, публіцыста.

***

**5 снежня.** 105 гадоў з дня нараджэння Ганны Абуховіч (1908 – 1986), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі.

***

**85 гадоў** з дня нараджэння Мікалая Камінскага (1928 – 1993), беларускага гісторыка, архівіста.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

## АСОБЫ

# Яго называлі бацькам

**МАЛАДЗЕЧНА. У працяг надрукаванаму ў №45 матэрыялу: "Уладзімір Калачык: Стаў героем за чалавечнасць".**



Фота забяспечана Уладзімірам КАЛАЧЫКАМ.

**Два героі — Уладзімір Калачык і Аляксей Бобрык.**

З часам забываюцца героі, імёны тых, хто жыве побач з намі. Новыя часы і новыя стасункі дыктуюць сваё. Вось аб адным з герояў я вырашыў напісаць і сказаць: "Вялікі Вам дзякуй за тое, што Вы такі, як ёсць, – "чалавечны чалавек".

Гэта Уладзімір Міхайлавіч Калачык, Герой Сацыялістычнай Працы, двойчы дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, двойчы дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, член ЦК КПБ, ганаровы грамадзянін Маладзечанскага раёна за №1.

### Зайздросцію тым, хто хадзіў у школу

13-гадовым падлеткам ён застаўся без маці, а праз чатыры гады пахаваў і бацьку. Ён быў старэйшы ў сям'і, і ўсе клопаты аб братах Веніяміну і Сцяпану і малодшай сястрычцы Ніне ляглі на яго плечы. Трэба было весці гаспадарку, а тым часам ішла вайна.

Толькі тры гады ён правучыўся пры немцах у пачатковай школе, а потым самастойна давучваўся далей. Хлопча моцна хацеў вучыцца, як і іншыя дзеці, якія мелі бацькоў. З зайздрасцю глядзеў, калі яны ішлі ў школу і вярталіся дадому.

Ужо тады ён ведаў, што трэба абавязкова атрымаць адукацыю. Настаўнікі пайшлі яму насустрач: тлумачылі матэрыял, давалі заданні на дом. Ён прыходзіў у школу ў вольны час і адказваў вывучаныя ўрокі (накшталт вучобы экстэрнам).

Шмат сіл і часу займала індывідуальная гаспадарка. Меў шэсць гектараў зямлі, каня, дзве каровы, дробную рагатую жывёлу. Даводзілася зарабляць на хлеб у моцных мужыкоў, якія вучылі хлопца весці гаспадарку, перадавалі свой досвед. Ім падабаўся характар Уладзіміра, яго гаспадарлівая жылка, кемлівасць, працавітасць.

Пасляваенны час быў вельмі складаны. Не было дзе жыць, цесна, голад, холад. У Мароськах са 150 хат засталося толькі пяць – астатнія спалілі немцы.

### Стану старшынёй – увяду грашовую аплату

Пачалася калектывізацыя, Калачыкі ўступілі ў калгас. Уладзіміра абралі ўчотчыкам, пасля брыгадзірам. Салдаты, якія вярнуліся пасля страшнай вайны, не за страх, а за сумленне працавалі ў калгасе, атрымліваючы жабрацкую аплату натурай за работу. Тэхнікі не было. Касілі, жалі, аралі і сеялі ўручную. На працадні давалі крыху больш за два мяшкі збожжа, якога не хапала да новага ўраджаю. Выручала ўласная гаспадарка. Але і тут даводзілася працаваць ад цямна да цямна.

Хлопец разумеў, наколькі несправядлівай была аплата ў параўнанні з фізічнымі затратамі.

У той час існавалі саўгасы, у якіх выплачвалі грошы, хай сабе і невялікія. Таму ўжо тады ён вырашыў, што калі стане старшынёй, то абавязкова ўвядзе грашовую аплату. Таму і паставіў сабе задачу: вучыцца.

Уладзімір атрымаў накіраванне на вучобу ў Ашмянскую сельгасшколу, у якой рыхтавалі будучых старшыняў калгасаў. Вучобу ён паспяхова закончыў. 26-гадовым маладзёнам яго абралі старшынёй калгаса. І першым у рэспубліцы менавіта ён перайшоў на грашовую аплату працы. Але дзе ўзяць грошы? Вырашылі вырошчваць лён, беларускае "блакітнае золата". На яго вырошчванне даводзілася затрачваць шмат ручной працы: праполваць, убіраць лён, мяць саломку і іншае. Для гэтай працы стварылі сем звенняў па 7-8 чалавек.

– Жанчыны тады працавалі, як салдаты, – прыгадвае Уладзімір Міхайлавіч. – Але пасля ўбачылі, што лён спустошае зямлю, і вырашылі вырошчваць бульбу. Трэба было вывучыць перадавы досвед і навучыць спецыялістаў набыць добрыя гатункі. Пачалі рыхтаваць спецыялістаў, ездзіць на вучобу ў дзяржсортаўчастак, іншыя гаспадаркі. І справа пайшла.



Фота забяспечана Уладзімірам КАЛАЧЫКАМ.

**Лідзія Калачык на Выставе дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве.**

Сам старшыня паехаў вучыцца ў Гродна, таму што за плячыма была толькі сямігодка. Пасля ён скончыў акадэмію, аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю. "І ўсё без адрыву ад вытворчасці", – гаворыць ён.

У 1956-57 гадах працаваў сакратаром Маладзечанскага райкама камсамола. Нечакана выклікае яго першы сакратар Маладзечанскай вобласці Сяргей Прытыцкі і прапануе прыняць калгас "Светлы шлях" у вёсцы Заскавічы замест Мікалая Чаркашына, які адмовіўся пераязджаць у калгас.

### "Светлы шлях" – пачатак слаўнай біяграфіі

Раз партыя сказала "трэба", камсамол адказаў "ёсць". Калгас быў утвораны ў 1948-49 гадах. А ў 1953 годзе на базе сямі дробных гаспадарак арганізавалі адну пад назвай "Светлы шлях". У 1978 да яго далучылі частку зямель калгаса "Чырвоны луг" (Маркава).

Уладзімір Калачык у 1962 годзе быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. Прапанавалі пасаду сакратара райкама партыі – адмовіўся ад заманлівай прапановы.

У гэты час першыя асобы рэспублікі заўва-

жылі маладога старшыню, таму што добрыя вынікі яго дзейнасці былі відавочныя.

Да яго ўраджайнасць была каля пяці цэнтнераў з гектара, 80 цэнтнераў бульбы, 8 цэнтнераў мяса, 51 малака. У 1975 – 34 цэнтнеры збожжавых, 202 бульбы. За поспехі ў развіцці сельгаспрадпрыемства ў дзявятай пяцігодцы быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Дагэтуль можна пачуць, што Калачыку стварылі ўсе ўмовы, дапамагалі вышэйшыя эшалоны ўлады. Лухта. Трэба было даказаць на справе, чаго варты кіраўнік гаспадаркі.

Упершыню я ўбачыў Уладзіміра Міхайлавіча ў 1956 годзе, калі служыў у Маладзечне, а ён быў сакратаром райкама камсамола. Я ведаю яго як творчага чалавека, які ўмее бачыць перспектыву і добра ведае сельскую гаспадарку. Ён усяго дамагаўся сам, не выпрошваў, а сам знаходзіў рашэнні складаных пытанняў.

Пётр Міронавіч Машэраў уважліва сачыў за кар'ерай маладога старшыні, прыкладна два разы на год бываў у калгасе "Светлы шлях". Я запомніў адзін такі візіт. Я тады працаваў начальнікам піянерлагера "Арлёнак", які знаходзіўся непадалёк ад вёскі Вяжуці. У канцы 70-х у сельскай гаспадарцы пачалося будаўніцтва буйных свінакомплексаў па італьянскім праекце, адзін з іх будавалі ў Вяжуцях. Але не было дарогі, а толькі разбітая ад вёскі Конавічы да Вяжуцяў.

Але яна з'явілася літаральна за чатыры дні да прыезду Машэрава – тры кіламетры гравійкі. Працу асабіста кантралявалі сакратар РК КПБ Быкоўскі, старшыня райвыканкама Давыдоўскі. А цяпер? Цяпер гэтай дарогі няма.

### 33 гады жыцця – усё дзеля калгаса

Поспехі калгаса ў вырашэнні пытанняў вытворчасці сельгаспрадукцыі здзіўлялі нават замежных гасцей. У гаспадарцы, дзе да прыходу Уладзіміра Міхайлавіча, збіралі пяць цэнтнераў з гектара, пачалі збіраць 40 цэнтнераў!

Аднак не менш здзіўляла вырашэнне і сацыяльных праблем. Былі пабудаваныя дамы сядзібнага тыпу, каб была магчымасць весці ўласную гаспадарку, а таксама гандлёвы цэнтр з магазінамі, сталовая-рэстаран, Дом культуры і шмат чаго яшчэ.

Цяпер цяжка паверыць у тое, што на месцы вёскі Заскавічы некалі былі балоты. Але шчодрая дапамога дзяржавы да працавітыя рукі сялян ператварылі іх ва ўрадлівыя землі.

Вялікае значэнне Уладзімір Міхайлавіч надаваў адукацыі. У калгасе працавалі каля 60 спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, сярод іх 10 чалавек – калгасныя стыпендыяты, 37 чалавек вучыліся без адрыву ад вытворчасці. За працоўныя поспехі 60 чалавек былі ўзнагароджаныя ордэнамі і медалямі СССР, 96 – медалямі ВДНГ СССР.

Працаваў у калгасе і Герой Сацыялістычнай Працы Аляксей Раманавіч Бобрык, брыгадзір чацвертай комплекснай брыгады калгаса "Светлы шлях". Палі гэтай брыгады адрозніваліся не толькі высокай ураджайнасцю, але і культурай земляробства.

Пётр Машэраў не раз браў Уладзіміра Калачыка ў працоўныя паездкі па ўсім Савецкім Саюзе і за мяжу. У такіх паездках Уладзімір Міхайлавіч вывучаў дасягненні іншых гаспадарак, каб укараніць іх у сябе.

Пётр Машэраў не раз быў госцем сям'і Калачыкаў. Жонка Уладзіміра Міхайлавіча Лідзія Васілеўна частавала госця сваімі агуркамі, тварагом, мёдам.

Пазнаёміўся Уладзімір Міхайлавіч са сваёй жонкай у Лебедзеве. Працавала яна заатэхнікам у калгасе. Сыгралі вяселле, Лідзія Васілеўна нарадзіла двух сыноў: Уладзіміра і Ігара. Сам Уладзімір Міхайлавіч не раз гаварыў, што яму вельмі пашанцавала з такой спадарожніцай жыцця.

33 гады жыцця Уладзімір Міхайлавіч прысвяціў свайму дзецішчу – калгасу "Светлы шлях". Шмат чаго было зроблена за гэтыя гады. Створаныя ўсе магчымасці для далейшага развіцця калгаса, падрыхтаваная цэлая плеяда добрых спецыялістаў. Уладзімір Міхайлавіч аберагаў духоўныя каштоўнасці, аднавіў царквы ў вёсцы Лебедзева, Беніца, нанова адбудаваў царквы ў Мароськах і Заскавічах. Пакінуў аб сабе добрую памяць сваімі чалавечымі адносінамі да людзей.

### 12 кіраўнікоў калгаса пасля Уладзіміра Калачыка

Сёння чамусьці забытыя слаўныя традыцыі калгаса "Светлы шлях". Прыбралі шыльду, быццам не існавала такой гаспадаркі. 12 кіраўнікоў змянілася за гэты час, але становішча калгаса, на жаль, не змянілася.

Вы, магчыма, мне запярэчыце: цяпер іншыя часы. Так, іншыя. Але ва ўсе часы былі і будуць людзі, якія хочуць працаваць і, зразумела, атрымоўваць за гэта годныя грошы. Дзе цяпер такія гаспадаркі? А ў памяці жыве ўсё лепшае, што было ў калгасе "Светлы шлях". А шыльду, усё ж такі, трэба вярнуць на месца.

**Валеры КАЧАРГІН,**
**вёска Лебедзева Маладзечанскага раёна.**

■ ХАРЧАВАННЕ

# Каша – страва наша?

**МАЛАДЗЕЧНА. Як так атрымліваецца, што адны і тыя ж крупы можна купіць і за пяць, і за 20 тысяч рублёў?**

Усё проста: кошт залежыць не толькі ад пэўнага віду круп, але і ад іх колькасці. Падчас нашага агляду круп на рынку і ў крамах Маладзечна мы знайшлі толькі два прадпрыемствы, якія выпускаюць крупы ў пакунках вагой адзін кілаграм: Маладзечанскі і Мінскі камбінаты хлебапрадуктаў.

Іншыя ж выпускаюць па 900, 800, 750, 700, 500 грамаў. Таму пры куплі варта суадносіць кошт не толькі з крупамі іншых вытворцаў, але і з вагой пачкі. Мы склалі табліцу, у якой вы можаце параўнаць, якія крупы купляць больш выгадна.

У нашы крамы трапляюць крупы з Расіі, Пакістана, В'етнама. Самы шырокі асартымент на палічках мае рыс: круглы, даўгазерневы, язмін, басмаці, прапараны, буры, арбарыё і нават з чорнымі крупінкамі.

### Топ-5 самых танных круп

Самымі дарагімі аказаліся рысавыя крупы. А вось спіс самых танных.

1. **Ячныя** крупы "Панскі гатунак" за 750 грамаў 3 800 (5 050 за кілаграм) і "Сталічны млын", Мінскі камбінат хлебапрадуктаў, за 900 грамаў – 4 550 (5 050 за кілаграм).
2. **Ячныя** крупы "Святлара" за 900 грамаў 4700 (5200 за кілаграм)
3. **Манныя** крупы. На рынку 900 грамаў каштуе 5 500 ( 6 100 за кілаграм)
4. **Проса**. На рынку 700 грамаў каштуе 4 500 (6 400 за кілаграм)
5. А таксама танна можна набыць і **рыс** "Дабрада". 700 грамаў абыдзецца ў 5 500 (7 950 за кілаграм)

### Не пераплачвайце, калі не бачыце розніцы

На рынку райспажыўтаварыства некаторыя крупы можна купіць танней, чым у любой краме. Каля гэтых павільёнаў заўсёды збіраецца чарга.

– Мы звычайна закупляемся тут, – распавядае маладая пара ў чарзе. – Ніякай розніцы ў смаку розных круп мы не бачым, а вось у коштах так.

У аддзеле бакалеі на рынку ёсць не толькі бюджэтныя крупы. Тут можна знайсці, напрыклад, гатунак рысу арбарыё, за пачак якога можна набыць два пачкі звычайнага рысу

Прадпрымальнік **Сяргей** патлумачыў:

– Некаторыя пакупнікі якраз такі рыс і шукаюць. Ён такі бялюткі, з асаблівым смакам. Ёсць аматары і такога. Пераважна ж набываюць рыс і грэчку, сямейныя ўпакоўкі.

Цяпер кожная гаспадыня можа больш уважліва прадумаць наступную пакупку круп. Таму што для многіх важная не толькі іх разнастайнасць на стале, але і апраўданасць кошту.

### Манка – гэта ежа дзіцячая

Пра тое, якія крупы самыя карысныя, у які час варта ўжываць кашы і ці можна ладзіць монадыеты з кашы, распавяла доктар-дыетолаг **Ванда Анцілеўская.**

**– Кашы ўжываць карысна. Гэта так?**

– Ну а як інакш? Крупы карысныя для арганізма чалавека.

**– А якую з каш вы, як дыетолаг, лічыце самай карыснай?**

– Калі гаварыць пра лячэбнае харчаванне, то ў грэчкі і аўсянкі найменш супрацьпаказанняў. У гэтых кашах амаль не змяшчаецца вугляводаў, таму іх можна есці людзям хворым на дыябет.

**– А што вы можаце сказаць пра манную кашу? Ці праўдзіва, што дзяцей з дзяцінства шпігуюць ёй?**

– Манку толькі дзецям і трэба даваць. Яна лёгка засвойваецца дзіцячым арганізмам, добра пераварваецца ў страўніку. А арганізму дарослага чалавека манка непатрэбная. Там адны вугляводы, што асабліва шкодзіць дыябетыкам і людзям, схільным да паўнаты.

**– Манныя крупы самыя каларыйныя?**

– Не, за манку больш каларыйныя кукурузныя крупы і проса, але вугляводаў у іх менш. А самыя малакаларыйныя крупы – аўсяныя. У іх усяго 305 калорый у 100 грамах.

**– А ў які час дня лепш за ўсё ўжываць кашы?**

– Каша – гэта ежа для сняданку. На вячэру карысней будзе гародніна з невялікім кавалачкам мяса.

**– Ці карысна рабіць монадыеты, напрыклад, цэлы тыдзень есці толькі кашы?**

– Аднабаковасць – гэта дрэнна заўжды. Адны кашы – гэта ненармальна. А калі і гаварыць пра дыеты, то значна карысней будзе не здзекавацца з арганізма, а зрабіць так, каб ваш дзённы рацыён уключаў 1000-1500 калорый.

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Наталля ТУР.**

| Від круп | Назва | Колькасць, грамы | Кошт, руб. | Цана за кілаграм, руб. |
|---|---|---|---|---|
| Шматкі ячныя | "Дабрыня" | 500 | 5 050 | 10100 |
| Шматкі аўсяныя | "Геркулес-1" | 500 | 5 300 | 10600 |
| | "Экстра №3" | 500 | 4 950 | 9900 |
| Крупы грэчневыя | Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў, "Купецкая", крупы хутка разварваюцца | 1 000 | 10 650 | 10650 |
| | "Дабрада", расійскі вытворца | 700 | 6550 | 9400 |
| | "Святлара" | 900 | 7 950 | 8800 |
| | "Экалайн", расійскі | 900 | 7 550 | 8400 |
| | "Пан Крупка" | 900 | 7 500 | 8300 |
| | Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў, "Купецкая", | 1000 | 7600 | 7600 |
| Проса | "Ракан", расійскі вытворца | 700 | 6 400 | 9150 |
| | "Дабрада", расійскі вытворца | 700 | 5 050 | 7200 |
| | "Пан Крупка" | 900 | 6250 | 6950 |
| | На рынку | 700 | 4 500 | 6400 |
| Ячныя крупы (груца) | "Пан Крупка" | 900 | 5 300 | 5900 |
| | "Экалайн" | 900 | 5 150 | 5700 |
| | "Святлара" | 900 | 4 700 | 5200 |
| Ячныя крупы (драблёныя) | "Пан Крупка" | 700 | 3 950 | 5650 |
| | "Панскі гатунак" | 750 | 3 800 | 5050 |
| | "Сталічны млын", Мінскі камбінат хлебапрадуктаў | 900 | 4 550 | 5050 |
| Крупы пшанічныя, падробленыя | "Сталічны млын", Мінскі камбінат хлебапрадуктаў | 1 000 | 7 950 | 7950 |
| Рыс | "Экалайн", басмаці, Пакістан | 500 | 13 250 | 26500 |
| | "Ракан", Індыя, з чорнымі зярняткамі | 800 | 19 900 | 24850 |
| | На рынку. "Ідэя", рыс арбарыё | 800 | 18 500 | 23150 |
| | "SanRice", язмін, В'етнам, Літва | 800 | 17 450 | 21800 |
| | "Food colleketion", арбарыё | 600 | 12 900 | 21500 |
| | "SanRice", для сушы, ЗША, Літва | 800 | 16 400 | 20500 |
| | "SanRice", буры, Тайланд, Літва | 800 | 15 800 | 19750 |
| | "Экалайн", язмін, Пакістан | 500 | 9300 | 18600 |
| | "Food colleketion", для сушы | 600 | 8500 | 14150 |
| | "Food colleketion", буры | 600 | 8500 | 14150 |
| | "Экалайн", круглы, Расія | 800 | 11 050 | 13800 |
| | "Ракан", Індыя, прапараны | 700 | 9 300 | 13300 |
| | "Бабуліна кухня", (падпісана "Індыя") | 700 | 6 950 | 9950 |
| | "Бабуліна кухня", (падпісана "Індыя") | 800 | 7950 | 9950 |
| | "Бабуліна кухня", (падпісана "Індыя") | 900 | 8950 | 9950 |
| | На рынку: "Дабрада", даўгазерневы, Пакістан-Расія | 700 | 5 500 | 7850 |
| Манныя крупы | Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў | 1000 | 7400 | 7400 |
| | На рынку | 900 | 5500 | 6100 |

■ РЭЦЭПТ

## Як зварыць ідэальную грэчку

Не ўсе гаспадыні ведаюць, што, каб атрымалася зварыць самую смачную грэчку, яе спачатку трэба падсмажыць.

Вазьміце каструлю з вялікім дном, усыпце шклянку грэчкі. Пакладзіце сталовую лыжку масла. Перамешваючы, падагравайце грэчку, пакуль не растане масла. Вы пачуеце прыемны пах.

У гэты час залівайце крупы вадой і накрыйце накрыўкай.

На вялікім агні давядзіце да кіпення. Потым агонь паменшыце і даварвайце грэчку.

ПЛАВАННЕ

# *Паралімпіец Дзмітры Салей:* “Назад у Беларусь я не вярнуся”

**МАЛАДЗЕЧНА. Імя Дзмітрыя Салея, пераможцы Паралімпійскіх гульняў у Пекіне, вядома амаль кожнаму маладзечанцу.**

Праз чатыры гады, у 2012-м, Дзмітры Салей прадстаўляў краіну на Паралімпійскіх гульнях і ў Лондане. А потым пачалі гаварыць, што наш чэмпіён выступае ўжо за іншую краіну. Ці так гэта, мы даведаліся ў самога Дзмітрыя.

**– Дзмітры, ці праўда тое, што вы пакінулі Беларусь?**

– Гэта не зусім так. Я па-ранейшаму жыву ў Маладзечне, але трэніруюся ў Азербайджане.

**– І як часта вы там бываеце?**

– Як правіла, 20 дзён трэніруюся там, а на 20 дзён прыязджаю дамоў.

**– А дарага ездзіць туды-сюды?**

– Ды што вы! Усе выдаткі на дарогу кампенсуе прымаючы бок.

**– Дзмітры, як вы рашыліся на такія кардынальныя перамены?**

– Давайце пачнём з таго, што адносіны да спартсменаў і ўмовы для трэніровак там значна лепшыя. І спартсменаў там не падманваюць. Трэніруючыся ў Беларусі, мне надакучыла слухаць абяцанкі: заўтра дадзім, заўтра заплацім, заўтра будзе лепш.

**– А вы ўжо прадставілі Азербайджан на нейкіх спаборніцтвах?**

– Па правілах, павінны прайсці два гады з таго часу, як ты выступаў за іншую краіну. Але гэта ўмоўна, даўно можна было б дамовіцца, але пакуль няма рашэння ад Беларусі.

**– Не адпускаюць?**

– Не (уздыхнуўшы). Не адпускалі: ні Беларусь, ні ўласны трэнер. Хаця адносіны з трэнерам у мяне захаваліся сяброўскія. Мы зразумелі адзін аднаго.

**– Вядома, што вы трэніраваліся са сваім малодшым братам Раманам? А ён застаўся ў Беларусі?**

– Не, я яму прапанаваў паехаць са мной, і ён пагадзіўся. Разумееце, калі б я ці Рома засталіся ў Беларусі, то прыйшлося б рабіць выбар. І, хутчэй за ўсё, не на карысць спорту. Прыйшлося б шукаць стабільную працу са стабільным заробкам, а ў басейн хадзіць па выхадных. Я ж да такога не гатовы. Я хачу быць спартсменам, хачу перамагаць. Тое ж і з Раманам. У Беларусі ён быў нікому не патрэбны. А толькі прыехалі ў Азербайджан, тут табе і ўмовы для трэніровак, і заробак.

**– А колькі вы зарабляеце?**

– Гэта камерцыйная таямніца (жартуе). Але вось для параўнання. У Беларусі за перамогу на буйных спаборніцтвах можна атрымаць каля 100-120 тысяч долараў, а ў Азербайджане за такую ж перамогу – мільён еўра. Вось і лічыце.

**– А да Паралімпіяды-2016 рыхтуецеся?**

– Я абавязкова буду прымаць удзел у Паралімпійскіх гульнях у Бразіліі! Але ўжо пад сцягам Азербайджана. Я ні разу не пашкадаваў, што прыняў такое рашэнне. І назад у Беларусь я не вярнуся.

**Наталля ТУР.**


Фота забяспечана Дзмітрыем САЛЕЕМ.

Дзмітры Салей. Жыць і трэніравацца хоча ў камфортных умовах.

НАША МАРКА

## Новая эмблема клуба “Маладзечна” – толькі на беларускай мове!

**МАЛАДЗЕЧНА. На новай эмблеме футбольнага клуба “Маладзечна”, якую ствараюць заўзятары на беларускай мове, будзе ўказаны год заснавання клуба – 1949.**



На новай эмблеме літары МП (былы спонсар Маладзечна Піва) будуць замененыя на год заснавання клуба –1949.

Пытанні наконт новай эмблемы мы задалі яе стваральніку, удзельніку ультрас-групы **Арцёму.**

**– Ці праўда тое, што новая эмблема клуба будзе на беларускай мове?**

– Фанацкі сектар вырашыў так. Эмблема павінна быць на беларускай мове.

**– Вядома, што ў дырэктара клуба на гэты конт іншае меркаванне.**

– Мы паважаем і яго выбар таксама. Мяркуем, што напярэдадні сезона мы ўсё ж такі правядзём галасаванне, на якой мове павінна быць эмблема. Хочацца, каб на гэту тэму выказаліся тыя, каму насамрэч неабыякавы лёс маладзечанскага футбола. І каб меркаванні гэтыя былі падмацаваныя нейкімі аргументамі.

**– Дзе і калі з’явіцца галасаванне?**

– Давайце спачатку дачакаемся, што будзе з клубам. Як і ў мінулы год, міжсезонне пройдзе ў хваляваннях: ці будзе ж існаваць каманда?

**– Эмблема зменіцца кардынальна?**

– Не. Ніхто ў гэтым незацікаўлены. Эмблема маладзечанцаў мае сваю гісторыю, яна добра вядома ўсім аматарам футбола, таму змяняць яе кардынальна няма сэнсу. Адзінае, што зменіцца: колеравае рашэнне будзе больш яскравым і замест літар “МП” на эмблеме з’явяцца год заснавання каманды – 1949.

**Наталля ТУР.**

МАЛАВЯДОМАЕ

## 1949 год – пачатак гісторыі маладзечанскага футбола

**МАЛАДЗЕЧНА. Прынята лічыць, што маладзечанскі футбольны клуб заснаваны ў 1988 годзе. Але гэта не так. Сваю гісторыю маладзечанскі футбол пачынае аж у 1949 годзе!**

Пра гэта “Рэгіянальнай газеце” паведаміў заўзятар **Дзмітры Рухлевіч**.

– Клуб заснаваны ў 1988 годзе, калісьці меў назву “Металург”. Самая распаўсюджаная інфармацыя гаворыць пра тое, што каманда “Металург” стала пераможцай чэмпіянату Беларусі ў 1991, выйграла Кубак мільёнаў. А між тым, усё пачалося значна раней.

Першы чэмпіянат Беларускай ССР па футболе быў праведзены ў 1922 годзе, рэгулярна стаў праводзіцца з 1934 па 1991 год. На сайтах, звязаных з футболам, у вольным доступе ёсць пералік прызёраў чэмпіянату, а там бачна, што ў 1949 годзе “Дынама” з Маладзечна атрымоўвае ў чэмпіянаце Беларускай ССР бронзу!

Але гэта не азначае, што каманда не існавала раней.

Я вывучыў шэраг крыніц у інтэрнэце, але нідзе не было інфармацыі пра склад удзельнікаў двух чэмпіянатаў: 1947 і 1948 гадоў. І вось нарэшце сайт kuzmiz-football.com паставіў кропку ў маіх сумненнях.

На гэтым сайце прыведзены спіс камандаў, адсутных чэмпіянатаў.

Цяпер мы смела можам сцвярджаць, што годам адліку гісторыі маладзечанскага футбола з’яўляецца 1949 год! А гэта значыць, што наступны год для нас – юбілейны.

Маладзечанскі футбол адзначыць сваё 65-годдзе, і самы час размясціць гэту дату на эмблеме клуба.

І вельмі хочацца, каб насуперак усім цяжкасцям, што зараз апанавалі каманду “Маладзечна”, юбілейны год прайшоў на высокім узроўні, каб сезон быў годны ўсім слаўным традыцыям маладзечанскага футбола.

Для даведкі: з 1949 па 1991 год маладзечанская каманда пад рознымі назвамі восем разоў станавілася прызёрам чэмпіянату БССР па футболе, з іх двойчы займала першае месца (1963, 1991), двойчы выйгравала кубак БССР (1990, 1991), а таксама ў 1991 годзе заваявала Кубак мільёнаў.

А што датычыцца 1988 года, у гэты год была створаная чарговая юрыдычная асоба, якая мела стабільнага спонсара, як, напрыклад, цяперашняя “Забудова 21 стагоддзе” і футбольна-спартыўны клуб “Маладзечна-2013”.

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

### ФК “Смаргонь” завяршыў сезон на шостым месцы

**СМАРГОНЬ**. У матчы апошняга тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе футбольны клуб “Смаргонь” сустракаўся ў гасцях з клубам “Бяроза-2010”.

Гульня адбылася 23 лістапада.

Матч завяршыўся ўнічыю 1:1. Адразу наперад выйшлі смаргонцы (гол на 25-й хвіліне забіў **Вячаслаў Замара**). Гаспадары зраўнялі лік напрыканцы матча.

ФК “Смаргонь” завяршыў чэмпіянат на шостым месцы. Каманда набрала 46 ачкоў: атрымала 13 перамог, 7 матчаў звяла ўнічыю і 10 разоў прайграла. Смаргонцы забілі 45 галоў, а прапусцілі 35.

### “Першы Беларускі” – чэмпіён у валейболе

**ВІЛЕЙКА.** Завяршыўся чэмпіянат Вілейскага раёна па валейболе сярод мужчынскіх камандаў. Праходзіў ён у два кругі: вясной і восенню.

Гульні апошняга тура адбыліся 19 і 21 лістапада. Перад апошнім турам лідзіравала каманда “Механатроніка”, аднак яна саступіла 0:3 камандзе ЖКГ. А іх праследнікі з каманды “Першы Беларускі” атрымалі лёгкія тры ачкі (сапернікам з мэблевай фабрыкі было залічана тэхнічнае паражэнне). Яшчэ адзін матч – паміж камандамі райаддзела па надзвычайных сітуацыях і аддзела адукацыі, спорту і турызму – завяршыўся з лікам 0:3, паведаміў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда**.

Чэмпіёнам стаў “Першы Беларускі”, які набраў 23 ачкі. На другім месцы “Механатроніка” (21 ачко). Трэцяе месца за камандай Вілейскай ЖКГ (15 ачкоў), якая абышла прадстаўнікоў аддзела адукацыі, спорту і турызму толькі па лепшай розніцы партый.

### Стартаваў турнір па міні-футболе

**ВІЛЕЙКА.** Пачаўся дваццаты штогадовы турнір па міні-футболе. Стартаваў ён 17 лістапада, а завяршыцца напрыканцы снежня.

У турніры прымаюць удзел 14 камандаў, якія разбітыя на дзве групы. Гульні праходзяць у спартыўнай зале РФАЦ “Імпульс” па пятніцах з 18.00 і нядзелях з 10.00

Першыя матчы прынеслі наступныя вынікі: “Алькот” – Крыніца 2:5, “Юніёр” – “Рубін” 5:4, “Буддэталі” – “Страла” 11:3, “Воўкаўшчына” – “Крыніца” 7:7, “Першы Беларускі” – “Вілія” 12:5, “Нарачанскія зоры” – “Шылавічы” 8:3, райаддзел па надзвычайных сітуацыях – “Макаўе” 9:5

**Аддзел інфармацыі**

# Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Кіраўніцтва футбольнага клуба “Маладзечна-2013”: “У наступным годзе выжываць мы не будзем!”

Навошта адміністрацыі раёна спансіраваць прыватны клуб? Лепш гэтыя сродкі аддаць ДЮСШ, заявіць каманду ў 2-ю лігу і вярнуць ёй назву ФК “Маладзечна”. ***Васіль Васіліч.***

Каб існаваць (заўважце, існаваць, а не выжываць) у наступным годзе, клубу трэба 500 мільёнаў беларускіх рублёў. Калі ў 100-тысячным горадзе палова насельніцтва працуе, то, адняўшы ў кожнага 10 тысяч рублёў, атрымаем патрэбную суму. Калі браць з кожнага па 2 тысячы рублёў штомесяц, то сума будзе яшчэ большая. Грошы на форму і на выезды размеркаваць па прадпрыемствах і ўжо можна нармальна існаваць. Няўжо наш горад горшы за Смаргонь? Дзе насельніцтва менш у два разы, але грошы на футбол ёсць??? ***Маладзечанец.***

Маладзечанец, чаму я павінен даваць 2 тысячы рублёў у месяц на незразумела які праект? Лепш гэтыя грошы пералічыць ДЮСШ-4, каб заявіць у 2-ю лігу. ***Васіль Васіліч.***

Мне здаецца, што спадар Любанец павінен папрасіць прабачэння перад маладзечанскімі балельшчыкамі за свае словы пра мову. Вельмі крыўдна, што так думае мой равеснік. Сорамна павінна быць, Аляксандр! ***Пан Шыманскі.***

### Новая эмблема клуба “Маладзечна” – толькі на беларускай мове!

Цалкам падтрымліваю нашых “ультрас”. Эмблема павінна быць толькі на нашай роднай беларускай мове і захаваць як мага больш адметнасцяў. Дзякуй, хлопцы, за тое, што вы робіце дзеля нашага футбола, клуба! Вашы падтрымка і справы можна параўноўваць з тым, што робяць дзеля нашага клуба і нашага футбола кіраўніцтва і ўсе зацікаўленыя грамадзяне. ***Балельшчык.***

**ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ**

## Чаго вам не хапае ў вашым горадзе ці вёсцы?

| | |
|---|---|
| 25% | Вакансій |
| 23% | Рок-канцэрта |
| 16% | Магазінаў і кафэ |
| 13% | Балета |
| 11% | Прыроды |
| 9% | Оперы |

Усяго галасоў 43

**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | | | | | 1 | | |
| | | 3 | | | 5 | | 8 | |
| 4 | 5 | | 9 | | | | | 3 |
| | 7 | | | 6 | 1 | | 5 | |
| 1 | | | | | | | | 8 |
| | 2 | | 8 | 7 | | | 6 | |
| 8 | | | | | 4 | | 1 | 6 |
| | 3 | | 1 | | | 5 | | |
| | | 5 | | | | | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



**ФЕСТЫВАЛІ**

# …І яблыкі пакаціліся па сцэне на балеце Панфілава

**МАЛАДЗЕЧНА. Пермскі дзяржаўны тэатр “Балет Яўгена Панфілава” зноў прыехаў у Маладзечна. На гэты раз з “Рамэа і Джульетай”.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Падчас спектакля “Рамэа і Джульета”.

Відовішчна, арыгінальна і да мурашак. Пабеглі якраз у момант, калі пасыпаліся яблыкі – сімвал канца гісторыі дваіх закаханых.

– Вельмі спадабалася, – кажа пад уражаннем ад толькі што ўбачанага глядачка **Таццяна**. – Харэаграфія арыгінальная, а музыка – дык і ўвогуле! Для мяне, як для музыканта, гэта вельмі важна. Ды і што тут казаць, вядома, гэта шэдэўр.

– Канешне, мне спадабалася, – сходзіцца ў меркаванні з Таццянай **Раіса**. – І харэаграфія, і музыка, да таго ж вельмі выразна паказаныя эмоцыі. Такі балет проста не можа не ўражваць. Тым больш, на балеце ўжо даўно не была, таму і эмоцый шмат.

– Вельмі! – кажа і **Людміла**, таксама глядачка. – І музыка, і танцы. Такога я яшчэ ніколі не бачыла. Узровень адчуваецца.

І сапраўды, у тэатра ёсць дасягненні. Яўген Панфілаў – лаўрэат Усесаюзнага і міжнародных конкурсаў балетмайстраў, лаўрэат Нацыянальнай тэатральнай прэміі “Залатая маска”. Ён працаваў над ідэяй, харэаграфіяй, пастаноўкай, сцэнаграфіяй і касцюмамі спектакля “Рамэа і Джульета”.

Музыка ж, якая так спадабалася маладзечанцам, – Сяргея Пракоф’ева.

Балет прыехаў у Маладзечна нездарма. Ад 17 лістапада цягам тыдня ў Беларусі ідзе 26 Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі (IFMC). Асноўная пляцоўка – горад Віцебск. Аднак ад мінулага года яна пашырылася, і цяпер некаторыя ўдзельнікі гастралююць і па іншых гарадах.

Дзякуючы гэтаму летась падчас IFMC тэатр упершыню выступіў на маладзечанскай сцэне. Тады маладзечанцы пабачылі “Клетку для папугаяў”.

**Настасся РОЎДА.**

**РЭПЕРТУАР**

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйная камедыя **“Выратаваць Санту!”** 3D (Вялікабрытанія, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29 лістапада – 19.00
30 лістапада-1 снежня – 14.30, 16.30
4 снежня – 16.30
5 снежня – 17.00
Кошт білета – 25 000рублёў.

Трылер **“Va-банк”** (ЗША, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29, 30 лістапада – 21.00
1 снежня – 19.00
2-4 снежня – 21.00
5 снежня 19.00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Прыгоды **“Тры мушкецёры”**, 3D (Расія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3-4 снежня – 18.30
Кошт білета – 45 000 рублёў.

Фэнтэзі, прыгоды **“Тор 2: Царства цемры”**, 3D (ЗША, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29 лістапада – 16.30
30 лістапада 18.30
1 снежня –21.00
5 снежня – 21.00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

Гістарычная драма **“Распуцін”** (Расія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
2 снежня 19.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйныя прыгоды **“Тор: Легенда вікінгаў”** (Ісландыя, Германія)
30 лістапада, 1 снежня – 15.00, 17.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Трылер **“Перавозчык 3”** (Францыя, Вялікабрытанія, ЗША)
3-5 снежня – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер **“Без кампрамісаў”** (Вялікабрытанія, Францыя)
29 лістапада – 17.30, 19.30
30 лістапада, 1 снежня – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Драма, трылер **“Саламон Кейн”** (Францыя, Чэхія, Вялікабрытанія)
29 лістапада-5 снежня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на лістапад

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**“Шукаю сапраўднага мужчыну”** (камедыя ў 2-х дзеях) Алена Папова
29 пятніца 19.00

**“Бывай, канферансье!”** (спектакль-канцэрт) Рыгор Горын
30 субота 17.00

### Рэпертуар на снежань

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**Увага! Дзеці і дарослыя, якія яшчэ не забыліся, што некалі былі маленькімі!**

Ад 19 да 30 снежня ў 10.30, 13.00 і 15.30 штодня запрашаем на дзіцячы мюзікл для ўсёй сям’і “**Цётухна Прастуда і Новы год**”, дзе вы сустрэнецеся са сваімі старымі знаёмымі: Дзедам Марозам, Снягурачкай і іншымі казачнымі героямі. Перад спектаклем адбудзецца вясёлы карнавал з гульнямі, загадкамі, прызамі і навагоднімі сюрпрызамі!

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**“Камедыя”** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), Уладзімір Рудаў
3 аўторак 19.00

ПРЭМ’ЕРА. “**Не такі, як усе**” (камедыя ў 2-х дзеях), Аляксей Слапоўскі
5 чацвер 19.00

“**Шукаю сапраўднага мужчыну**” (камедыя ў 2-х дзеях), Алена Папова
6 пятніца 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: modt@tyt.by.

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**“Церамок ”** (казка). С.Маршак.
1 снежня – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

**ГАРАСКОП (29 ЛІСТАПАДА-5 СНЕЖНЯ)**



**Авен.** Паспрабуйце цяпер увасобіць у жыццё якіясьці свае старыя мары і жаданні, тыя, што здаваліся немагчымымі.



**Цялец.** Уявіце сабе толькі, што вы можаце кардынальна памяняць у сваім жыцці ўсё тое, што вас не задавальняе, проста адной сілай думкі.



**Блізняты.** Пастарайцеся прымаць незвычайныя рашэнні – гэта дапаможа вам заслужыць прызнанне ў дзелавой сферы. Паспрабуйце эксперыментаваць – нават калі і спасцігнуць няўдачы, яны пойдуць толькі на карысць.



**Рак**. Вам трэба падвесці вынікі, што было зроблена ў апошні час, а затым прадумаць план дзеянняў на бліжэйшы. І пазбягайце сутыкненняў з блізкімі, бо нават дробныя крыўды могуць выліцца ў цяжкія сваркі.



**Леў**. Вы будзеце абаяльнымі ўдвайне: па-першае, у сваіх уласных вачах, па-другое, у вачах навакольных, якім перадасца ваша надзвычайная ўпэўненасць у сабе. Харызма будзе дапамагаць і на рабоце, і дома, і ў зносінах з людзьмі. Галоўнае, не перагінайце палку і не глядзіце зверху ўніз на іншых, бо перавага рассеецца як дым,ператварыўшыся ў недаравальны недахоп.



**Дзева**. Паспрабуйце разабрацца ў нейкіх складаных сітуацыях, уладзьце былыя канфлікты. І не цісніце на навакольных, дзейнічайце далікатна.



**Шалі**. Не адмаўляйце сабе ні ў чым – прыйшоў вас час.



**Скарпіён**. Не з’язджайце далёка і надоўга – самыя цікавыя падзеі адбываюцца тут, і вам трэба кантраляваць сітуацыю.



**Стралец**. Вы проста абавязаныя ўнесці ў сваё жыццё новы струмень! Любыя пачынанні будуць падтрыманыя. Эксперыментуючы, вы здольныя дабіцца многага. І ведайце, што пазітыўныя думкі здольныя збывацца.



**Казярог**. Не хавайцеся ад уласных праблем. Ёсць рэчы, разабрацца з якімі можаце толькі вы і ніхто іншы.



**Вадалей**. Калі ад вас запатрабуецца прыняцце важнага рашэння, то не бойцеся рызыкаваць – што б вы ні вырашылі, вынік будзе толькі на вашу карысць.



**Рыбы**. Поспех літаральна зваліцца вам на галаву, прычым не толькі ў сферы кар’еры, але і ў шмат якіх іншых – без увагі не застанецца і ўласнае жыццё.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

